УДК 882.6 ББК
84 (4 Беі)
К 85

Крэйдзіч А. М.

Параненыя мары. П'еса, апавяданні, мініяцюры. Брэст. ААТ «Брэсцкая друкарня», 2002. 100 с. ISBN 985-6665-01-9

Зборнік складаецца з празаічных твораў гістарычнай п'есы «Палескі Напалеон», арыгінальных апавяданняў, а таксама з кароткіх мініяцюр аўтара пра людзей са складанымі лёсамі. Анатоль Крэйдзіч спрабуе знайсці адказ на пытанне: для чаго жыве чалавек на гэтым белым свеце.

УДК 882.6-1
ББК 84 (4 Беі) 6

# НЕКАЛЬКІ ПРЭТЭНЗІЙ ЗАМЕСТ ПРАДМОВЫ

На добры толк, назву «Палескі Напалеон» павінна мець гэтая кніга, а не тая, што выйшла ў 2001 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Не ў ёй жа, а ў гэтым зборніку аднайменная п'еса публікуецца. Зрэшты, калі б яна засталася ў той кнізе (а разам з ёю і асобныя апавяданні калі б ніхто не выкінуў з яе), то і гэты зборнік не было б патрэбы выдаваць.

Згодна з канцэпцыяй Андрэя Федарэнкі, выказанай ім у гратэскнай форме у звароце «Да магчымага чытача», якім пачынаецца і завяршаецца чарговая кніга празаіка «Смута» (1994 г.), шанцы займець хоць аднаго чытача ў маіх зборнікаў (і ў папярэдняга, і ў гэтага) увогуле нулявыя, бо калі «Смута» была выдадзена шасцітысячным тыражом (і ўсяго адзін чытач, і той магчымы, г.зн., і таго можа не быць!), дык «Палескі Напалеон» усяго тысячным, а во гэтыя крыху ўжо пабітыя жыццём «Параненыя мары» і яшчэ меншым.

Найбольшая абраза для пісьменніка, які піша дзеля таго, каб напісанае мацавала самае высокае, самае светлае, самае лепшае ў чытача, гэта калі яго не чытаюць. Дык вось. Самае страшнае, што пры ўсёй гратэскнасці Федарэнкаўскіх падлікаў, у адносінах да маёй кнігі «Палескі Напалеон» яго канцэпцыя, падобна на тое, спраўджваецца. Прайшло ўжо паўгода з моманту выхаду зборніка (прадмова гэтая пішацца зімою 2002 года), а я не ведаю ніводнага чалавека, які купіў яго ў кнігарні.

Значыць, 1) або ніхто не купляе кнігу, 2) або,

купіўшы, не прачытаў, 3) або, калі прачытаў, нічога ў гэтай кнізе не «ўзяло за жывое», 4) або толькі на гэта і застаецца спадзявацца і прачытаў, і ўразіла, ды проста паленаваўся ўзяцца за пяро і напісаць пра сваё ўражанне хоць бы караценькі ліст аўтару.

У Іванаве, дзе я жыву, «Палескі Напалеон» не прадаецца нідзе да гэтага часу і невядома, ці будзе калі прадавацца. Значыць, магчымы чытач не мае магчымасці набыць кнігу, калі б і надта хацеў.

Па самых прыблізных падліках, на Брэстчыне павінна быць каля васьмі соцень бібліятэк. Праз паўгода ў выдавецтве з тысячы экземпляраў засталася палова. Гэта пры тым, што адсюль разыходзіліся кнігі і ў кнігагандаль, і куды заўгодна. Колькі ж тады ў бібліятэкі вобласці паступіла, калі па ўсёй рэспубліцы ўсяго паўтысячы асобнікаў разышлося? А ёсць жа яшчэ і школьныя бібліятэкі.

Цяжкі, аднак жа, шлях кнігі да чытача. Напэўна, не менш цяжкі і шлях чытача да кнігі. Вельмі верагодна, што ў цэлым ён, гэты шлях, і зусім непераадольны. І тады што ж: Федарэнкаўская гіпербала не такая такая ўжо і гіпербала і не гратэск?

Тым не менш, мне ніхто і нішто не перашкаджае верыць у тое, што нехта (няхай сабе ў адзіночным ліку і няхай сабе яшчэ нават і не народжаны) якраз у маіх кнігах знойдзе свой сцяг, які шукацьме паўсюль, як людзі шукаюць сэнс жыцця, і панясе яго над сабою па сваім жыцці. Верым жа мы ў Бога, хоць і ніколі не бачылі яго.

1.02.2002 г.

# ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ЗАПІСКА

*Гэтая п'еса ахоплівае час з 1830 года па... Ну, скажам, па 70-я гады мінулага стагоддзя. А зрэшты, яна сягае і далей, у наш час. Асабліва апошняю дзеяй маналогам мастака, кампазітара, тэарэтыка паўстанца з Варацэвіч (цяпер Іванаўскі раён) Напалеона Орды.*

*Некаторыя моманты п'есы патрабуюць абавязковага тлумачэння. Так, у ёй зменена паслядоўнасць падзей. У трэцяй дзеі паказана карцінка з 1863 года, вядомага паўстаннем Кастуся Каліноўскага, а ў чацвёртай з 1859 -га. Аўтар апраўдвае такую непаслядоўнасць тым, што твор гэты не хроніка. Ён пісаўся для таго, каб мы (тыя, каго адлучае ад часу жыцця і творчай ды грамадскай дзейнасці галоўнага героя твора паўтары сотні гадоў) паўней уявілі сабе, як уплывала тая эпоха на станаўленне светапогляду нашага славутага земляка, на яго творчасць, проста на ўчынкі.*

*Заўважым таксама, што герой п'есы паказаны тут у розным узросце ад 23-гадовага юнака да сталага чалавека на сёмым дзесятку год. Адзінае, што ў творы адлюстравана бегла, як бы ўскосна гэта парыжскі перыяд, які з 76 год жыцця Напалеона займае трэцюю частку. Але таму ёсць сваё апраўданне па першапачатковай задуме Орда ва ўсіх дзеях павінен знаходзіцца толькі на сваёй зямлі. Гэта даніна яго бясконцай любові да Айчыны.*

*Ніводная дзейная асоба (нават сяляне або лёкаі) у п'есе не з'яўляецца выдуманай. Наогул, фантазіі аўтара ў ёй выключна мала, і ў гэтым яе біяграфічнасць*

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

**Дзейныя асобы***:*

*Напалеон Орда 23 гады.*

*Юзефіна Орда маці Напалеона, жанчына 45 47 гадоў.*

*Вялізны ганак на чатырох слупах на каменным падмурку. Бачныя часткі драўлянага атынкаванага дома і гонтавага даху пад кронамі высозных таполяў. Воддаль некалькі садовых дрэваў. З іх ападае лісце.*

*Напалеон стаіць, абапёршыся рукою на парэнчы, глядзіць удалячынь паверх залы. Яго маці Юзефіна побач. Яна абаперлася аб тую ж парэнчу спінаю. Твару яе не бачна. Маці і сын апрануты лёгка.*

**ГОЛАС**. *Год 1830-ы. Лістапад.*

**Юзефіна** *(паварочвае галаву да сына).* Я бачу ты не скарыўся. Ты малады яшчэ, і мне цяжка цябе зразумець. Але ты прайшоў праз допыты і астрог, а на сваім стаіш, як і стаяў. Раскажы ж мне, раскажы матулі сваёй, чаго дамагаешся. Я хачу зразумець цябе.

**Напалеон** *(усхопліваецца).* Ах, мама, як я магу сказаць табе, чаго дамагаюся, калі ў самога ў галаве тлум і неразбярыха...

**Юзефіна.** Ну, калі ты выбіраешся на вайну, каб некага забіваць альбо самому загінуць, то прычына, якая вымушае цябе ўхапіцца за зброю, павінна быць вельмі сур'ёзнаю. А яшчэ у цябе неблагая пасада. Стаць межавым суддзёй быламу астрожніку вельмі нядрэнна. Калі б не бацькаў аўтарытэт ва ўездзе, ці паступіў бы яшчэ на такую службу.

**Напалеон.** Але ж у мяне вышэйшая адукацыя.

З маімі ведамі я мог бы заняць і адказнейшую пасаду.

**Юзефіна.** Ты не давучыўся, і ў цябе няма дыплома.

**Напалеон.** Гэта толькі таму, што мой універсітэт у Вільні зачынілі. У ім я правучыўся чатыры гады і атрымаў дастаткова ведаў. А табе, мама, я вельмі ўдзячны…

**Юзефіна.** За што, сынок?

**Напалеон.** За тое, што паклапацілася, калі я сядзеў за кратамі, каб мяне адпусцілі дахаты, што прашэннямі сваімі закідала чыноўнікаў, што не стамлялася прасіць за мяне.

**Юзефіна.** За каго ж мне яшчэ прасіць? Я ўсё жыццё за цябе Бога прасіць буду, каб бараніў ад пакут ды няшчасцяў.

**Напалеон** *(кідаецца да маці, схіляецца перад ёю на калена, утыкаецца тварам у яе далоні).* Даруй мне, мама, за слёзы, што праліваеце з-за мяне… Даруй, што гэтулькі непрыемнасцей табе ўчыняю. Я б і рады заўсёды з табою быць і ніколі не трывожыць цябе. Толькі цяпер, калі вырашаецца лёс краю, я не магу адседжвацца дома, як суседзі нашыя Сулкоўскія ды Красніцкія. Я вельмі люблю цябе, але ж люблю і сваю Айчыну.

**Юзефіна** *(паднімае сына)* Не перапрошвай мяне, бо ты ні ў чым не вінаваты прада мною. Скажы толькі, чаго больш у табе: нянавісці да расейцаў за тое, што кінулі цябе ў астрог, ці любові да айчыны, пра якую ты толькі што згадваў?

**Напалеон** *(хутка, захоплена).* Не расейцы кінулі мяне ў астрог, мама… Не расейцы, а праклятае самадзяржаўе. Хіба шкадавала яно Маскалёў? Душыла яшчэ горш. А колькі маіх сяброў-дзекабрістаў выслала на каўказ. Ці ўбачу

іх? адзін Бог ведае. Якая мне справа да расейцаў, мама. Тут сваіх спраў не разгрэбці.

**Юзэфіна** *(бярэ сына за руку).* Ты вырас, Напалеон. Узмужнеў. А думкі твае светлыя і высакародныя. Дарэмна мы з бацькам лічылі цябе дзіцём, пазбягалі сур'ёзных размоў, калі ты быў побач...

**Напалеон** *(усміхаецца).*Вы гаварылі нават пра палітыку?

**Юзэфіна** *(зноў падыходзіць да парэнчы, абапіраецца на яе рукамі).* О, я зусім далёкая ад палітыкі. Але я вельмі люблю і заўсёды любіла твайго бацьку, які меў цвёрдыя палітычныя погляды і ніколі не меняў іх. Пра лёс Рэчы Паспалітай мы часта гаварылі разам, і я яго разумела і разумею, як разумею зараз цябе, мой сыне (На хвілінку задумваецца). Нас хвалявала тое ж самае, што хвалюе цябе. Я ведаю ты адчуваеш у сабе сілы зрабіць штонебудзь для свайго краю. Толькі ты не ведаешь яшчэ, у чым твая сіла...

**Напалеон.** Але гэта не азначае, што я павінен сядзець і чакаць, покуль сыдзе на мяне прасвятленне. Хто, калі не мы, верне нам Айчыну.

**Юзэфіна.** Ты паразумнеў, Напалеон. Мы былі не такімі. Мы доўга цешылі сябе надзеяю, што свабоду Польшчы прынясе француз. Многія жанчыны тады хоць крыху ды хацелі быць падобнымі да юнай Валеўскай і зрабілі б тое ж, што яна, калі б мелі яе прыгажосць...

**Напалеон** *(скептычна дадае).* ...І яе багацце ды высокі тытул, (з'едліва дэкламуе па памяці). "Мы бязмежна радуемся, убачыўшы Вас на зямлі нашай Айчыны, якая чакала Вас, каб падняцца".

**Юзэфіна.** Так, гэта яе словы, звернутыя да Напалеона, калі ён уваходзіў у Варшаву. Толькі

навошта смяяцца з іх? Я таксама паўтарала іх не раз, калі ты быў яшчэ ў маім чэраве. А малітву замяняў нам адзін-адзіны выраз: "З Напалеонам Бог, і нам з Напалеонам".

**Напалеон.** Вы і мяне ахрысцілі яго імем?

**Юзефіна.** Так.

**Напалеон.** Каб уславіць вызваліцеля ды паказаць сваю прыхільнасць да яго?

**Юзефіна.** У той час гэтак рабілі многія. А бацька твой як ніхто верыў ў шчаслівую зорку Польшчы, у тое, што з прыходам Банапарта да яе вернецца былая моц і адродзіцца магутная дзяржава.

**Напалеон.** Якія ж вы былі наіўныя.

**Юзефіна.** Так, наіўныя. Але… (паўза). Гэта быў шчаслівы час.

**Напалеон.** Чаму?

**Юзефіна.** Бо тады я нарадзіла цябе. Нарадзіла ў самы разгар баталій ваенных. Бацька тады захоплены быў вайною, сачыў за кожнаю бітвай па росказнях відавочцаў ды часам па газетах. Памятую…

**Напалеон.** Цікава. Я ўвесь увага.

**Юзефіна.** Калі я адчула хуткае тваё з'яўленне на свет, калі цела маё пачалі скаланаць сутаргі, на вуліцы ўсходзілася небачаная дагэтуль завіруха; такая, што і да суседняй хаты не дойдзеш, заблудзішся. У вокнах акром белай кашы нічога болей не бачыла. А калі нарадзіла цябе, стала ціха-ціха і заіскрылася празрыстай беллю сонца, запаліла навокал крышталікі бясконцага снегу.

**Напалеон.** Ты нібы паэму чытаеш. Пэўна, усё гэта табе прымроілася.

**Юзефіна.** Усё так і было. Бацька ўзяў цябе на рукі і ціха паклікаў, "Напалеон, ці чуеш ты мяне? Адзін Напалеон цяпер заваёўвае пад

Эйлау нашую незалежнасць, а другі будзе жыць у вольнай дзяржаве".

**Напалеон.** Я ледзь стрымліваю слёзы.

**Юзефіна.** Ён верыў, што сонца, якое нарадзілася са сцюжы разам з табою гэта знак Гасподзен. Мала хто ведае, як бязмежна любіць ён сваю Айчыну, бо самыя патаемныя думкі твой бацька выказвае толькі мне. *(Узнімае галаву, глядзіць у неба, хрысціцца са словамі: "Божа праведны. Ты бачыш усё на небе і на зямлі. Даруй нам грахі нашыя").*

**Напалеон** *(памаўчаўшы).* Хіба гэтак цяжка было здагадацца, што ніхто нам не заваюе свабоду, апроч нас саміх? Тым больш, што Напалеон ніколі і не абяцаў Польшчы вярнуць яе былую незалежнасць.

**Юзефіна.** Цяпер гэта ведае нават той, хто не ўмее чытаць. А тады. Тады з усіх бакоў толькі і чулася: незалежнасць, Генеральная канфедэрацыя каралеўства Польшчы, усеагульны сейм… Нам трэба было доўжыць сцяжыну, таптаць якую пачаў наш сусед Касцюшка. Гэта ён быў нашай свабодаю.

**Напалеон.** Але вы, асепленыя і падманутыя, маліліся на Панятоўскага, Радзівіла, Дамброўскага ды маладога Патоцкага, якія шукалі сабе славу і багацце, толькі не свабоду народу свайму. Касцюшкі баяліся вы, бо ён быў занадта сваім між галоты.

**Юзефіна.** Мы не хацелі бунту.

**Напалеон.** Лічылі сябе за вяльможаў? А мелі жменьку зямлі ды паўжменькі прыгонных. Варацэвічы ды Міхалін з Гарбахою увесь маёрат (скептычна ўсміхаецца). Вы памыляліся, і нам, маладым, трэба выпраўляць вашыя памылкі.

**Юзефіна** (*пасля паўзы).* Холадна ўжо *(паціскае-пацепвае плячыма).* Хадзем у хату, у

твой пакойчык. Пасядзіш хвілінку перад дарогай, збярэшся з думкамі, успомніш гады, праведзеныя тут. Калі яшчэ вернешся сюды? Адзін Бог ведае.

*(Скіроўваюцца да дзвярэй).*

**Юзефіна** *(раптам спыняецца, гладзіць далонямі лацканы сынавага пінжака, узіраецца знізу ўверх у ягоны твар).* Напалеон... Табе б зараз не на вайну, а нявесту добрую падшукаць. Самы час сям'ёй абзавесціся, унучкаў нам нарадзіць. Іншага шчасця і прыдумаць цяжка...

**Напалеон** *(з дакорам).* Ну, мама. Ты зноў за саё...

*(Туліць яе да грудзей. Маўчаць).*

**Юзефіна** *(адрываецца ад сына).* Прабач, сыне, прабач. Не буду ўжо... Але ж я гэтак баюся за цябе. Ты такі малады. Можа, не рызыкаваў бы? Можа... *(Падносіць да вуснаў кулачкі).*

**Напалеон** *(лагодна ўсміхаецца).* Мама, ты ж сама сказала нядаўна, што я зусім дарослы. Не вымушай мяне слязьмі сваімі адмаўляцца ад выканання святога абавязку. Вельмі прашу цябе, мама.

*Юзефіна глядзіць ва ўпор у сынавыя вочы і вінавата ўсміхаецца.*

**Заслона**

**ГОЛАС.** *14 лістапада 1830 года Напалеону быў выдадзены спецыяльны білет тэрмінам на адзін месяц для выезду ў Польшчу. Нібыта на вяселле свайго сябра. На самой жа справе наш герой пакінуў родны дом для таго, каб змагацца на баку польскіх патрыётаў за вяртанне Рэчы Паспалітай межаў 1772 года, каб вызваліць свой край з-пад уціску царскага самадзяржаўя. Ваяваў у складзе чацвёртага конна-егерскага палка ў чыне падпаручыка. Адтуль быў камандзіраваны ў*

*галоўны штаб мяцежнікаў, служыў ад'ютантам у генерала Рамарына. Пасля падаўлення паўстання не пажадаў прыняць законную прысягу і збег у Аўстрыю. Лёс занёс Напалеона ажно ў Парыж, дзе яму выпала правесці 25 бурных, напоўненых творчымі знаходкамі і цікавымі сустрэчамі гадоў.*

*На радзіме яго аднеслі да злачынцаў 2 разраду, а гэта значыць, што ягоны маёнтак і маёмасць падвяргаліся секвестру ў казну. Папросту канфіскацыі. Пакуль жыла маці, маёрат быў у яе руках і адабраць яго не меў права ніхто. Але жыццё чалавека кароткае. У канцы пяцідзесятых гадоў яна адышла.*

*Атрымаўшы амністыю, Напалеон вярнуўся ў Варонічы ў 1856 годзе. Але вяртанне гэтае радасным не назавеш.*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Дзейныя асобы:
Напалеон Орда 52 гады
Ірэна жонка Напалеона
Вітальд сын Напалеона, 16 год

*Былы дзіцячы пакой Напалеона ў гасподскім доме ў Баранавічах. У куце фартэп'яна. На сцяне ягоны юначы партрэт.*

*Напалеон ходзіць туды-сюды па пакоі, пастукваючы час ад часу кулаком адной рукі па далоні другой. Каля круглага стала з крэслам стаіць, збіраючыся сесці, Ірэна. Яна то хапаецца рукамі за спінку крэсла, то скрыжоўвае іх на жываце. Нечым узбуджаная. На канапе сядзіць 16-гадовы юнак сын Вітольд. Ён нешта чытае.*

**Голас**. Год 1859-ы. Месяц люты.

**Напалеон** *(спыняецца, абводзіць рукамі сцены).*

Ну, вось... З гэтага пакойчыка я выбіраўся ў свет. У нас кажуць за свет. Тут, на гэтай канапе, мы з маткаю зямля ёй пухам пасядзелі хвіліначку на дарогу, і я рушыў. Паехаў у Пружаны здаваць рэкрута, а адтуль у Польшчу, да пана Аляксандра Бельскага на вяселле. О-о, я добра пабаляваў на тым вяселлі *(голас робіцца ўсё больш раздражнёным і гучным).* Я жаніў не каго-небудзь Літву сваю родную з Рэччу Паспалітай. Хацеў, бач, вярнуць нявесту жаніху, адабраную ад яго сілаю. Ды не аддаў ліхадзей. Не аддаў! Жаніх з носам застаўся. А я на тым вяселлі гэтак насцябаўся, што і хаты роднай не знайшоў, у другі бок падаўся. Да Парыжа даплёўся. Ці, можа, то і не вяселле было? Можа хаўтуры?

**Ірэна** *(парываецца да мужа).* Супакойся, Напалеон. Табе зараз трэбы мацавацца. Нам усім трэба мацавацца. Я разумею цяжка табе. Але ж... Маці не вернеш. Дзякаваць Богу, хоць дачакалася цябе, што сын родны, а не хто чужы, быў побач у апошнія хвіліны жыцця, што ёсць каму прыйсці на магілу. Думаеш, лёгка ёй назіраць з таго свету, як пакутуе сын. Бяры, бяры сябе ў рукі... Яна так хацела, каб ты быў шчаслівы.

**Напалеон** *(у голасе адчуваецца безвыходнасць).* Яны адабралі ў мяне ўсё Радзіму, маёнтак. Мой родны дом адабралі ў мяне. Але яны не адбяруць апошняга майго прытулку радавога склепа ў Янаве. Там я лягу са сваёю маткаю і ўжо ніколі не буду развітвацца з ёю. Гэтага мяне не пазбавіць ніхто. (Паўза). Думкі пра такую раскошу няхай і мацуюць мяне.

**Ірэна.** Не думай пра смерць. Успомні у цябе ёсць сям'я: жонка, сын. Што нам рабіць?

**Напалеон.** Што рабіць? І праўда што нам рабіць? Прабачце. Канечне, я абавязаны

клапаціцца пра вас. Але дазволь спытаць: ты згодная жыць тут, на маёй зямлі? Я досыць пабыў у Францыі. Там добра. Толькі не адпусціць мяне зямля гэтая. Не магу знoўку пакінуць яе.

**Ірэна.** Але ж тут няма дзе жыць. У цябе ўсё адабралі.

**Напалеон.** Так, маёнтак наш перадаецца ў арэнду нейкаму Віленскаму генералу Бушыну. Але я ўжо пра што-кольвек паклапаціўся. Вось, глядзі, я адправіў Гродзенскаму губернатару такое прашэнне *(дастае з кішэні паперку).* Чытай.

**Ірэна** *(доўга вывучае аркушык. Гаворыць, не паднімаючы галавы).* Тут неразборліва напісана. Прачытай сам *(аддае паперку).*

**Напалеон.** Гэта я перапісваў для сябе, таму неахайна. Слухай: "Прошение. По всеподданнейшему докладу Господина Министра Государственных имуществ прошение ныне покойной матери моей Юзефины Орда о предоставлении по Монаршей милости определённого к конфискации, состоявшего в пожизненном владении ея, имения Вороцевичи Кобринского уезда, по кончине ея в вотчинное владение мое, Государь император на отдачу мне имения не соизволил, а высочайше повелел: по кончине просительницы, а матери моей, выдать мне остаток оценочной суммы конфискованного имения 5790 рублей 90 копеек. Ныне, после кончины матери моей представляя законное о кончине посвидетельствование, я покорнейше прошу Ваше Превосходительство учинить распоряжение о выдаче мне Всемилостивейше пожалованной суммы.

Наполеон Михала сын Орда. 1859 года января 31 дня".

*(Кідае паперку на стол).* Вось такое прашэнне

адпраўлена мною губернатару. *(Паўза)* Мяркую, за атрыманыя грошы мы змаглі б арандаваць у маёнтку маіх продкаў якую-небудзь ферму і мелі б усё неабходнае для жыцця. Хіба гэта не выйсце?

**Ірэна** *(разгублена ўсміхаецца)*Не ведаю. Зрэшты, я б не сказала, што гэта найлепшае высце.

**Напалеон** *(разводзіць рукамі).* Прапануй лепшае.

**Ірэна** *(доўга глядзіць Напалеону ў вочы).* Давай вернемся ў Парыж.

**Напалеон** *(рашуча).* Ніколі. Свайго кутка не пакіну, што б там ні было.

**Ірэна.** Чакай. Даслухай мяне. Няўжо ты не разумееш, што нам не будзе тут жыцця. На цябе ж тут глядзяць не іначай, як на злачынцу. За табою напэўна да апошніх тваіх дзён будуць сачыць жандары. Ты чужы ўсім, чужы. Нашае жыццё тут ператворыцца ў пакуты. Дый я не вытрымаю тут доўга. Я таксама хачу жыць на сваёй зямлі, хачу адчуваць сябе вольным чалавекам. А Вітальд. Для яго радзімаю таксама з'яўляецца Францыя. Ён нарадзіўся і вырас у Парыжы. Паслухайся мяне хоць адзін раз, і ты не пашкадуеш.

**Напалеон** *(прыкладвае да сваіх грудзей далонь).* Не магу, Ірэна. І Вітальдам не трэба прыкрывацца. Няхай ён сам скажа за сябе. Ён ужо амаль дарослы. Мне здаецца, ён такі ж француз, як і паляк. Сынок *(звяртаецца да Вітольда, хапае яго за плечы),* няўжо я дарэмна прысвячаў увесь свой вольны час твайму знаёмству з маёю зямлёй. Я ж так многа расказваў табе пра гэты край, пра яго дзіўную, славутую гісторыю, пра яго вялікіх людзей. Гэта для цябе я выдаў тры гады назад граматыку польскай і французскай мовы. Я пісаў яе з адною думкаю: каб ты

вучыўся па ёй гаварыць па-польску, каб на бацькавай радзіме адчуваў сябе сваім. І ты вучыўся. Ты сумленна вывучаў мову майго народа. Цяпер ён і твой, твой народ. Скажы, скажы нам, што ты не лічыш сябе чужым на гэтай зямлі.

**Вітальд** *(адкладвае кнігу)* Думаю, што япрыжывуся ў любой краіне. Апынуўся б у Германіі, і яна таксама не здавалася б мне чужою. Можа, у Германіі мне было б найлепей, бо я жыў бы там паміж дзвюма сваімі радзімамі, паміж вамі, бацькамі маімі.

**Напалеон** *(хапаецца за галаву).* Германія? Прычым тут Германія? О, Божа. Ты што, ўжо разлучыў нас? Ты загадзя ведаеш, што мы не будзем жыць разам?

**Вітальд.** Здагадваюся *(зноў утыкаецца ў кнігу).*

**Напалеон** (*у разгубленасці выцягвае перад сабою рукі, памыкаецца да Ірэны).* Ірэна... Ты... таксама, як і ён?.. Ты... згодна з ім?

**Ірэна** *(падае паміж ускінутых рук на грудзі мужа, усхліпвае)* Ах, Напалеон. Я так не хачу, каб збылося гэтае сынава прароцтва. Але ж, бачыш, да гэтага ўсё ідзе. Ты ж ніколі не пагодзішся са мною (адыходзіць, адварочваецца ад Напалеона, выцірае насовачкаю пад вачыма, скрыжоўвае на грудзях рукі). Ты такі ўпарты. Ты ж не адступішся, покуль сам не ўпэўнішся, што робіш не тое. Помніш, пасля нашага вянчання... Што ты тады задумаў?

**Напалеон.** Што ж?

**Ірэна.** Табе закарцелася стварыць гандлёва-камісійны дом. Навошта?

**Напалеон.** Хацеў, каб сям'я жыла ў дастатку.

**Ірэна.** Але ж усім было вядома, што ўзяўся ты не за сваё. Помніш, я гаварыла табе, што не

пройдзе і два гады, як ты кінеш гэтую справу. Хіба табе камерцыяй займацца? Ты і праўда кінуў усё праз два гады. А Італьянская опера ў Парыжы… Яе дырэктарам ты пабыў яшчэ меней усяго адзін сезон. І гэтага трэба было чакаць. Я, калі памятаеш, прадбачыла гэта. Я рэальна адчувала, што сярод яе акцыянераў няма ладу і яны вось-вось разбягуцца. Твой аўтарытэт кампазітара і тэарэтыка музакі быў у Парыжы на ўзроўні сумняваюся, што тут, на радзіме сваёй, ты дасягнуў бы гэткіх вышыняў і тыя, хто ўтрымліваў тэатр, спадзяваліся, што здолееш адвесці бяду.

**Напалеон.** Цяпер легка быць разумным.

**Ірэна.** А я і тады ведала, што нічога не зробіш. Ты ж мог быць жорсткім толькі да ўлад, да дзяржавы, а да людзей такі ўжо мяккі быў. Я казала табе: не бярыся. Але ты ахутаў рэальнасць рамантычнасцю і кінуўся ў самы вір спрэчак, якія, ігнаруючы ўсе твае намаганні, такі знішчылі оперу. Цяпер ты зноў паказваеш сваю ўпартасць. Ты і тут ужо нейкую фабрыку будуеш, хоць і ведаеш, што нічога ў цябе не атрымаецца. Вытворчасць не твая стыхія. Шкадаваць жа будзешь пасля *(паварочваецца да Напалеона, умольна ўзіраецца ў яго).* Ну чаму, чаму ты такі ўпарты?

**Напалеон.** Можа, я і занадта ўпарты. Можа. шмат цярпеў з-за сваёй упартасці. Але адно ведаю цвёрда: шкадаваць, што застаўся жыць на зямлі бацькоў не буду.

**Ірэна.** О матка боска. З цябе досыць наздзекавалася жыццё, але яно так і не навучыла цябе нічому. Ты наіўны, як немаўля. Ты забываешся, што знаходзішся не ў Польшчы, а ў Расіі. У дзяржаве, якая трымаецца на жандарах, якая ненавідзіць цябе і якую ненавідзіш ты.

Апамятайся. Табе не будзе тут спакою. Ты небяспечны манархіі ўжо тым, што навучыў сына польскай мове, што другою радзімай яго называеш Польшчу, а не Расію. Варта табе зрабіць тут адзін-адзіны крок не туды, і трапіш за краты, кінуўшы нас у чужой краіне на волю лёсу *(перадыхнула, загаварыла спакайней).* Успомні, кім ты быў у Францыі.

**Напалеон.** Гм. На чужыне, за светам…

**Ірэна.** За светам, як ты кажаш, цябе шанавалі болей, чым у сябе дома. І зараз там памятаюць цябе. Там ацанілі твой талент. Там было, ёсць каму цаніць. Там твае ж суайчыннікі. Успомні: найвялікшым шчасцем для цябе было сустрэцца там з Шапэнам, з ліцвінам, як ты яго заўсёды называў, Адамам Міцкевічам. Яны больш чым сябры. Яны твае духоўныя спадарожнікі. Ты імчаў да іх у салон Жорж Санд на злом галавы. Цябе цягнула да іх, бо ты адчуваў з імі духоўную еднасць. Вярніся ў тое асяродзе. Вярніся туды, дзе побач з табою заўсёды будуць людзі высокай культуры, тыя, хто цябе разумее. А ты хочаш прамяняць іх на жандараў. Ты хочаш, каб жандары ацэньвалі твае творы твае паланезы, мазуркі? Не, не толькі мы з Вітальдам, але і ты ты таксама будзеш адзінокі тут.

**Напалеон** *(задуменны, гаворыць манатонна. Яго пагляд скіраваны ў самога сябе).* Прабач, Ірэна, але ты іграеш на маіх пачуццях. Ты добра ведаешь, дзе мая слабінка, і знарок націскаеш на яе, каб схіліць на свой бок.

**Ірэна.** Я кажу праўду.

**Напалеон.** Пра гэта я і без напамінаў думаю штохвіліны. Думаю, і прыходжу да высновы, што абавязаны застацца тут. Мая зямля багатая на адораных людзей. Мая Літва памежжа адметнае. Яна нібыта лязо… І гэтае лязо нараджае людзей,

якія не баяцца парэзацца. Хіба можна баяцца лязa, калі ты на ім вырас. А між тым яно ўсё болей завастраецца. Яго точаць, нібы наждакі, барацьба ды войны суседзяў, ад якіх пакутуе той, хто пасярэдзіне. Гэтае лязо мы, ліцвіны ды палешукі. Гэта мы адточваемся нашыя розум, талент, гонар і адвага, гарачая любоў да краю і прага быць вольнымі. Такая зямля багатая на адораных людзей, бо на вастрыі не ўтрымаецца слізняк.

**Ірэна.** Слізняк акурат і ўтрымаецца.

**Напалеон.** Утрымаецца сёння. Ды згубіцца ў вяках. Я знайду іх, або яны знойдуць мяне. Не, на гэтай зямлі мы ніколі не будзем адзінокімі. А сябры Шапэн, Міцкевіч... Яны былі дарагія мне не толькі як творцы і цудоўныя людзі. Яны былі для мяне яшчэ і сімвалам радзімы.

**Ірэна.** Ужо за адныя гэтыя словы цябе можна аддаваць пад суд. А калі знойдзеш хаўруснікаў, якія думаюць па-твойму, можна не сумнявацца тваім домам такі стане астрог. Я баюся за цябе. Каб хто толькі ведаў, як я за цябе баюся.

**Напалеон.** *(падыходзіць да Ірэны, і яны глядзяць адно аднаму ў вочы).* Не бойся, Ірэна. Я буду памяркоўны. Я заўсёды буду адчуваць адказнасць за вас. Гэта дасць мне сілы стрымлівацца ад рызыкоўных учынкаў.

**Ірэна.** Не веру *(знясілена схіляе галаву).* Гэтыя твае словы падобныя да споведзі невыпраўнага п'яніцы, які запэўнівае, што болей не брацьме ў рот ні кроплі алкаголю. А назаўтра ён зноў пабяжыць у краму, бо яго нутро будзе згараць ад неадольнай прагі. Выбачай мне за гэтае параўнанне і за тое, што асмельваюся не верыць табе, але мая практычнасць ніколі мяне не падманвае. Бо гэта практычнасць, а не летуценнасць. (Пасля паўзы прыцішына дадае). У

Францыі ты мог бы гаварыць каму хочаш і што хочаш, не адчуваючы кожную хвіліну над сабою вастрыё расплаты *(хапае Напалеона за лацканы пінжака).* Згінеш. Згінеш жа тут ні за грош.

**Напалеон** *(бярэ яе рукі, апускае іх. Узнімае галаву).* Згіну, дык на сваёй зямлі. Лепей згінуць тут, чым век векаваць на чужыне. Здаецца мне, я патрэбны свайму краю. Сэрцам чую не адпускае ён мяне.

**Ірэна** *(плачучы, кідаецца ў роспачы да сына).* О, Божухна. Ты бачыш, Вітальд... Гэтая зямля, якая цураецца твайго бацькі, даражэйшая яму за сям'ю, за нас, за цябе. Выязджаем неадкладна. Паедзем дахаты. Мы не патрэбны... Ты бачыш мы не патрэбны яму. Не хачу заставацца тут ні хвіліны. Гэта праклятая зямля. Яна нараджае ўпартых фанатыкаў. Яна непрыдатная дл я нармальнага, шчаслівага жыцця. Яна забірае ў цябе твайго бацьку. Хутчэй, хутчэй адсюль. Ну, што ты сядзіш, Вітальд. Збірайся. Збірайся, і ў дарогу. Я задыхаюся ў гэтым кашмары.

*Вітольд устае і нячутна супакойвае маці. Напалеон застыў у здранцвенні.*

**Заслона.**

**ГОЛАС.** *Сёння цяжка сказаць, ці адразу з'ехілі з Варацэвіч жонка Напалеона Ірэна і сын Вітольд, ці ўсё ж затрымаліся, нягледзячы на жаданне Ірэны пакінуць маёнтак неадкладна. Дакладна вядома толькі, што яна была ў нашых мясцінах у 1864 годзе, г. зн. праз пяць год пасля разладу. 10 жніўня яна адправіла Віленскаму генералгубернатару, генерал-ад'ютанту і кавалеру, графу Эдуарду Трафімавічу Баранову прашэнне аб тым, што яе муж Напалеон Орда*

*па рашэнню генерал-лэйтэнанта Аванюкіна аддадзены пад суд за тое, што дазволіў сыну свайму Вітальду-Эдуарду-Генрыху паступіць на ваенную службу ў Францыі. Гродзенскі губернатар адмовіў ёй у выдачы замежнага пашпарту па той жа прычыне. У сваім прашэнні яна запэўнівае высокага чыноўніка, што парушэння закона з іх боку не было, бо Вітольд французскі падданы.*

*Не памылілася такі ў сваіх прагнозах Ірэна. Царскія чыноўнікі і праўда знайшлі зачэпку, каб напомніць пра сябе Напалеону, каб лішні раз ушчыкнуць яго, папярэдзіць ты ў нас пад пятою. А тым часам падзеі разгортваліся ў яшчэ болей небяспечным для яго напрамку. Неўзабаве ўспыхнула паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Яно, канечне ж, ніяк не магло абмінуць сына сваёй шматпакутнай Айчыны. Давайце перанясемся ў год 1863, на ферму Варацэвічы, што была перададзена яму ў арэнду. Зямля якраз абуджалася ад зімовага сну, рыхтавалася прыняць у нутро сваё жыццядайныя хлебныя зярняты. Для сялян надыходзіла гарачая пара. Красаваў красавік.*

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

**Дзейныя асобы**:

Напалеон Орда 56 гадоў

браты Філімон і Юзеф Бялевічы, лёкаі Орды - 30-35 гадоў,

работнікі Раўчук і Карлюк - гадоў пад сорак кожнаму,

Манчук, памочнік пісара 45 гадоў,

Малафей Ліпскі, селянін 50 гадоў

*Буфетны пакой гаспадскага дома ў Баранавічах. За сталом, хто як, сядзяць Напалеон Орда,*

*побач лёкаі Орды Філімон і Юзаф Бялевічы, работнікі Раўчук і Казлюк, памочнік пісара Манчук. Позні вечар. Гарыць ліхтар. На стале бутэлька і куфлі. Твары ва ўсіх узбуджаныя, пазмоўніцку засяроджаныя, позіркі скіраваны на Орду.*

**Напалеон** *(прыгладжвае валасы, сціскае галаву і, не ўзнімаючы яе, гледзячы ў стол, ціха пытаецца).* Што ж рабіць будзем, панове? (Доўгая паўза). Ну? Што ж маўчыце? Калі хто баіцца адпускаю *(зноў паўза ніхто не варухнецца).*

**Юзаф Бялевіч**. Ты наш гаспадар сапраўдны, а не нейкі там віленскі генерал, якога мы ведаць і бачыць не жадаем. Да скону служыць табе будзем. Куды скажаш туды і пойдзем. За табою хоць у пекла. Так ці не кажу? *(абводзіць вачыма астатніх).*

**Усе** ў адзін голас. Так, Юзаф. Ведама што. Анягож.

**Юзаф Бялевіч**. І воля нам іхняя горш за няволю прыгонную былую. Ты ж з намі як з роўнымі, хоць і разумнейшы. Думаеш, мужыкі такія ўжо сляпыя, не бачаць, хто чаговарты? Усё, брат, бачым. Таму і любім цябе, што з намі як з людзьмі абыходзішся, а не як з быдлам якім.

**Напалеон** *(пачынае ціха, але з кожным словам голас мацнее).* Удзячны вам, панове, за пашану. Я думаю, калі нейкія там Бушыны або Аванюкіны трымаюць ніжэйшых па чыну на адлегласці ад сябе, не падпускаюць, дык гэта не ад вялікага розуму. Яны проста баяцца, што людзі ўбачаць, наколькі яны абмежаваныя і дурнаватыя, і таму адгароджваюцца ад іх сцяною важнецкасці і пыхі. А горш за ўсё тое, што яны яшчэ нахабныя ды жорсткія. Гэта не

людзі, а свінні, і надышоў час зрабіць тое, што мы звычайна робім са свіннямі перад каляднымі святамі. Трэба падавацца ў лес, шукаць паўстанцкія атрады. Я збольшага ведаю, дзе яны павінны стаяць. Гэта не болей дзесяці вёрстаў адсюль. Калі ніхто гаварыць не жадае, рушым зараз жа…

**Юзаф Бялевіч** *(паднімаецца).* Што ж, у дарогу дык у дарогу.

**Манчук.** Не спяшайся, Юзаф. Я параіў бы счакаць і выехаць заўтра.

**Філімон Бялевіч.** Чаму гэта? Нельга нам цягнуць.

**Манчук.** Хіба вы забыліся, якое сёння свята?

**Усе** *(акрамя Напалеона)* Чаму ж забыліся? Благавешчанне сёння. Дык што з таго? *(Насцярожваюцца).*

**Манчук** *(паважна)* У гэты дзень нат жыта сеяць няможна, ніхто кароў з двору не выганіць, а вы хочаце такую важнецкую справу распачынаць. Дзеці, вунь, дзень цалюткі за бусламі бегалі, жыта прасілі. Яны ведаюць, што трэба рабіць у такое свята. А вы не ведаеце. Нельга, кажу я вам, сёння… Усё на корані згубім. Вось папомніце гэтае слова.

*Змоўнікі запытальна пазіраюць на Орду.*

**Напалеон** *(устае).* Ну, вось што. Нам ніяк нельга чакаць да заўтрашняга дня. Атрад у любы момант можа рушыць у бок Пружанаў. А грэх, што ўчынім у святы дзень, не вялікі. Бог нам даруе. Ён бачыць, на якую справу ідзем. Не рабаваць, не чужыя землі ваяваць збіраемся, а хочам гонар свой ўратаваць. Гэта таксама ж святое. (Паўза). Вось толькі малавата нас. Малавата, як ні круці. Што, няўжо больш ніхто не хоча? Вы казалі яшчэ каму?

**Філімон Бялевіч.** Казалі. Баяцца ўсе. Хіба

што Ліпскага ўзяць, Малафея. Ён баязлівец, але няхай бы быў для колькасці. Мы з Юзэфам, вунь, таксама ледзьве ад маткі ўцяклі. Як даведалася, што супроць улад пайсці збіраемся, дык ці не на ўсю вёску загаласіла. Так учапілася, што ледзь рукі ад кашуль паадрывалі. Баба адно слова.

**Напалеон** *(падскоквае, устрывожаны, да братоў).* Як, вы матцы сваёй сказалі, куды пайсці збіраецеся? Несур'ёзна гэта, хлопцы. Гэтак можна загрымець у Сібір яшчэ да таго, як да паўстанцаў дабяромся. Цяпер пагалоска, нібы пажар, абляціць усю вёску. А значыць і да жандараў дойдзе. Ды нічога ўжо не зробіш. Слова не верабей не зловіш яго. Таму спяшацца трэба. Давай, Філімон, кліч хуценька Малафея ды рушым. Не марудзь толькі.

**Філімон Бялевіч**. А мо адразу рушым? Чорт яго бяры, Ліпскага.

**Напалеон.** Не, пакліч усё ж. Пагаворым. Нам многа людзей трэба. Вельмі многа. Самі ж разумееце.

**Філімон Бялевіч.** Ведама, разумеем. Ну, пабег я. Некалькі галасоў. Глядзі, не затрымлівайся. *Бразгаюць дзверы, і Філімон знікае.*

**Манчук.** Спадар Напалеон, я не раіў бы вам пакуль што паказвацца на вочы Малафею Ліпскаму. Хто яго ведае, што за чалавек такі. Мне дык ён падазроны. Раптам не пагодзіцца ехаць у лес ды ў жандармерыю данясе. Нам дык што? Мы людзі нікчэмныя. Калі і сашлюць на катаргу, столькі тае бяды. А Вам нельга рызыкаваць. Вы патрэбны тут.

**Напалеон.** Я гэтакі ж чалавек, як і вы. Навошта ж мяне ўзвышаць? От жа народ. Яго выцягнеш з ярма, а ён у хамут хутчэй. Абы толькі дагаджаць некаму. Не трэба, не рабіце мяжу паміж сабою і мною.

**Юзаф Бялевіч.** Гэтая мяжа даўно зроблена, і не намі, а ходам жыцця. Нашто скасоўваць яе, калі яна не мяшае? Лепей і праўда засцеражыцеся, зрабіце паслуга ўсім нам.

**Усе.** Правільна, Юзаф. Хавайся, спадар Напалеон. Хавайся, просім цябе. Хоць бы ў суседні пакой зайдзі.

**Напалеон.** Хай па-вашаму будзе *(прычыняе за сабою дзверы ў суседні пакой) У той жа час уваходзяць Філімон Бялевіч і Малафей Ліпскі).*

**Ліпскі.** Добры вечар паньству.

**Усе.** Добры, добры. Што казаць нам маеш?

**Ліпскі** *(пераступае з нагі на нагу, камячыць у руках шапку. Філімон садзіцца).* А што гаварыць. Во, Філімон паклікаў, я і прыйшоў. Спачатку вас паслухаю.

**Юзаф Бялевіч** *(усміхаецца, падазрона ківаючы галавой).* Што ж нас слухаць? Ты хіба не ведаеш, нашто мы паклікалі цябе сюды? Не ведаеш, што ў губерніі нашай вайна пачалася за волю мужыцкую? Не ведаеш, што ўся Літва паднімаецца? Ці мо хочаш адседзецца, перачакаць віхуру?

**Раўчук.** Ды яму ўсё роўна, якому Богу маліцца і каму служыць…

**Юзаф Бялевіч**. Ціха ты. Ён шчэ не сказаў свайго слова. Дык вось жа, Малафей, болей мы табе нічога казаць не будзем. Тут не сейм і нават не сеймік, каб языком малоць. Кажы прама, што думаеш і ці згодны пайсці з намі ў лес, у атрад паўстанцаў.

**Ліпскі.** Я, гэта… Ну…

**Філімон Бялевіч.** Сядай вунь, у нагах праўды няма. І не нукай. На каня свайго нукаць будзеш, калі ў вазок запражэш.

**Ліпскі** *(асцярожна, крадком садзіцца).* О-о, цяперака нанукаюся. Сама, бач ты, ворыва

пачынаецца. Во-ох, работы цяперака будзе. Хаця б здароўе не падвяло, халера на яго.

**Раўчук** *(злосна)* Ага, хопіць цяпер работы. Крывавыя разоры араць будзем. Ці ты і напраўду за плугам хадзіць хочаш, калі мы за цябе пад кулі ды шаблі пойдзем? На, выпі во.

**Ліпскі** *(выпівае, крэкча, занюхвае рукавом світкі).* Мы зараз калі ішлі сюды з Філімонам, дык сустрэлі ягоную матку. Плача, бедная, просіцца, каб не кідалі яе на пагібель. Гэткі ўжо спакутаваны твар у яе, быццам хавае дзетак свіх. А я пра маю кабетку падумаў. Зусім жа ніякая. Слабоцце. Точна прападзе без мяне. Сама Камаліха не можа справіцца з ёю, ніякія чары не памагаюць. Дый от як яно. Я то не супраць, каб... Ды, што ж... Самі бачыце. Я ж, браточкі, і страляць не ўмею. Якая помач будзе ад мяне. А калі яшчэ гаспадар дазнаецца...

**Напалеон** *(адчыняе дзверы з суседняга пакоя, выходзіць)* Гаспадар, Малафей, таксама ў лес едзе. А калі ты хочаш апраўдацца тым, што страляць не ўмееш, дык гэта не адгаворка. Страляць навучышся ў лесе *(падыходзіць да Малафея);* О-о, ледзь не забыўся. Ты, здаецца, не атрымаў яшчэ сваё жалаванне. Вось яно, трымай *(падае Малафею некалькі паперак).*

**Ліпскі** *(кланяецца).* Дзякуй, паночку. Вельмі выручылі мяне, вельмі дапамаглі. Вой якія грошы. Я цяпер маладога, дужага каня сабе куплю. Шчодры вы чалавек, пан Орда. Я б з вамі... Я б... Куды хочаце... Толькі як жа ж... Прападуць мае...

**Напалеон** *(рэзка).* Ну, загадваць не буду. Справа добраахвотная. Ідзі дахаты і ні пра што не думай. Ды не прагаварыся. А вы, хлопцы, за мною. Паспяшаемся. Пэўна, языкі навокал толькі і балабоняць пра мяцежнікаў. У дарогу,

лыцары.

*(Малафей Ліпскі выскачыў з пакоя першы, за ім рушылі ўсе астатнія ўдзельнікі змовы. Адтуль, з дзвярэй, нібы з двору, пачуліся плач і галашэнне жанчыны).*

**Жаночы голас** *(умольны, перамешаны з усхліпамі).* Юзаф , Філімон… Дзеткі мае… Саколікі мае родныя… А вы ж не вернецеся адтуль, а вас жа там чакае хаціна без вокан і дзвярэй, а што ж вы робіце, прыгожыя мае. А горачка маё гора, што то будзе…

**Юзаф Бялевіч** *(яго ўжо не бачна).* Ціха ты. Нічога не будзе. Вернемся во зараз. Ідзі дахаты, не мазоль вочы. Ідзі, кажу, бо давядзеш…

**Заслона**

**ГОЛАС**. *І ўся дружная кампанія рушыла ў лес шукаць паўстанцаў. Ліпскі паехаў таксама. А па вяртанні дахаты (о, лепш бы яму было сядзець дома і ні пра што не ведаць; пісар як у ваду глядзеў)... Па вяртанні дахаты (Астафей пацёгся, дрыжучы ад страху, проста да Станавага Прыстава. Быў ён мужыком несамавітым, але пачуццё самазахавання ўсё ж падказала: не зробіш гэтага сам, зробіць за цябе нехта іншы. І тады гніць табе ў Сібіры, сабаку паскуднаму. Малафей Ліпскі не хацеў цярпець пакуты, і таму спяшаўся застрахавацца ад непажаданых наступстваў. Не застаўшы прыстава дома, заявіўся ў валасное праўленне. Затое якую страшную паслугу аказаў ён гаспадару свайму Ордзе. Той не вылазіў з судовых кабінетаў. А летам 1864-га суд аддаў мяцежнага мешчаніна на адказнае паручыцельства і ўтрымаў з яго на карысць асоб, што пацярпелі ад рук паўстанцаў, 200 рублёў. А з 15 мая 1866 года Напалеон праводзіць поўныя самоты і адчаю дні ў Гродзенскім турэмным замку. "Тваім домам стане*

*астрог... Згінеш, згінеш тут ні за грош", не выходзілі з галавы перадразвітальныя словы Ірэны. Ды не, не згінуў ён. Жыве ў памяці людскай слаўны сын зямлі беларускай. І абавязаны ён гэтым не толькі таленту свайму, сваёй неўтаймоўнай натуры і працавітасці, але і аднаму славутаму не толькі ў Польшчы, але і ва ўсім свеце чалавеку, аўтару 600 тамоў гістарычных раманаў, імя якога Юзэф Ігнацый Крашэўскі.*

Давайце, шаноўныя спадары і спадарыні, перанясемся на чатыры гады назад, у губернскі горад Жытомір, дзе Крашэўскі ўзначальвае тэатр, губернскі статыстычны камітэт, з'яўляецца папячыцелем мясцовай гімназіі.

## <u>ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ</u>

**Дзейныя Асобы:**
Напалеон Орда 52 гады
Юзэф Крашэўскі 47 гадоў

*Орда і Крашэўскі стаяць на фоне Жытомірскага сабора, узведзенага кіеўскім епіскапам Самуілам Озге напачатку XVIII стагоддзя. Паабапал брукаванага тратуара дрэвы і лаўкі. На вуліцы вясна.*

**Голас.** Год 1859-ы. Вясна.

**Крашэўскі** *(па-сяброўску дакранаецца да рукі Напалеона вышэй локця, гаворыць разважліва).* А ты добра зрабіў, што адгукнуўся на маё запрашэнне. Прыехаў такі, хоць і са спазненнем. Дый я, ведаеш, аб тваім вяртанні з Францыі не адразу быў асвядомлены. А як толькі дайшла да мяне такая вестка, адразу ж, адра-азу вырашыў пабачыцца, паглядзець на цябе славутасць такую.

**Напалеон.** Не блазнуй, Юзэ ф (ледзь улоўна

ўсміхаецца). Знайшоў славутасць. Гэта ты вунь па ўсім краі грыміш. А я... Хто я цяпер? Абламаная галінка са шляхецкага дрэва. Мае продкі былі шляхцічамі дастойнымі, праслаўленымі ў баях, герб свой мелі. Я цяпер нічога, акром яго, і не маю за душою. Зямлі ў мяне няма, людзей таксама. Арандую тое, што спакон веку належала продкам маім. Адзін жыву, як той воўк у глушы. Добра, бацька дарог паўз балоты панабудаваў. Па іх і да цябе дабраўся. Маці пахаваў. Жонка цягнула ў сваю Францыю, ды я не адступіўся. З'ехала, і сына за сабою павалакла.

**Крашэўскі.** Што ж ты цяпер мяркуеш рабіць?

**Напалеон.** Не ведаю. Кінуцца ў гаспадарчыя клопаты? Дык жа душа не ляжыць. Паспрабаваў наладзіць вытворчасць механізмаў для апрацоўкі зямлі і... Не стрымаўся, кінуў. Хай ужо Скірмунт ставіць па ўсім Палессі фабрыкі, гэта яго стыхія. Мне ж гаспадарчыя клопаты косткаю ў горле стаяць. Хіба настаўнічаць пайсці да магната якога? А можа, музыкай заняцца? За што ні хаплюся усё не тое.

**Крашэўскі.** Вызначайся, Напалеон. Да нечага ты павінен прыкласці рукі і сэрца, бо яны ў цябе залатыя.

**Напалеон** *(ціха, разгублена).* Кінь, Юзэф. Мусіць, праўда такі на баку Ірэны была, калі яна гаварыла, што ў Францыі памятаюць мяне і паважаюць. А для каго тут пісаць музыку? Не да яе цяпер, калі родная зямля ва ўладзе бязмозглага жандара. Рукі свярбяць.

**Крашэўскі** *(павучальна).* Я, дарагі мой Напалеон, трапляў у сітуацыі не меней складаныя. Але, як бачыш, не губляю аптымізму. Працую... Працую, як апошні катаржнік. У Варшаве вунь прапаноўваюць "Газету штодзённую" ўзначаліць.

...Некалі ў іх быў раман. Юначы, школьны. Яны нават збіраліся пажаніцца. Пра іх адносіны ведалі не толькі бацькі, але і ўся вёска. Вяселле меркавалася згуляць пасля вяртання Аліка з войска. Здавалася б, невялікі тэрмін — паўтара года. Ды дзявочай вернасці толькі на год і хапіла. А тады раптам, ніхто і здзівіцца не паспеў, выскачыла за гарадчука, які прыязджаў на лета да сваякоў, пераехала ў горад. Праз шэсць месяцаў пасля вяселля нарадзіла. Людзі казалі, што доўга яна з тым дурнаватым не нажыла. Разбэшчаны бацькамі і лёгкім, разгульным жыццём, муж трымаў яе за хатнюю прыбіральшчыцу, часам распускаў рукі. І яна сышла, развялася, перабралася нібыта на прыватную кватэру.

Толькі цяпер да Аліка нарэшце дайшло, чаму яго былая каханая пакінула школу і з галавою акунулася ў небяспечнаю камерцыю. Успомніў, як нехта ў вёсцы казаў, нібыта яна збіраецца купляць у горадзе двухпакаёўку. Маўляў, няхай усе ўбачаць, чаго варты ён, які і па сённяшні дзень жыве з бацькамі, і яна, у якой і дзіця дагледжана, на адны пяцёркі вучыцца, і зайздроснае жытло займела, і ўся абстаноўка ў тым жытле шыкоўная. Дык вось што, аказваецца, штурхае яе на вярблюджую працу і рызыку. Вось яно якое, яе выжыванне. Можа, каб менш было ў ёй гонару, каб магла цярпець знявагі, саступаць, перамоўчваць, як шмат якія жанкі, дык і жыла б сабе да скону сямейным жыццём. Але не той характар, ведае сабе цану. І, мабыць жа, тут сапраўды ёсць што цаніць.

Алік, магчыма, яшчэ захоўваў да яе нейкія пачуцці. Але не настолькі, каб з-за іх цяпер бараніць былую сваю каханую цаною ўласнага дабрабыту. Не дай Божа, начальнік дазнаецца,

што ён стаў на бок парушальніцы, у лепшым выпадку аблае і аб'явіць вымову, у горшым вытурыць з работы. Хутчэй за ўсё, яму свеціць апошняе. Але ж і караць яе нібыта нешта не давала. Якраз у гэты момант лезлі ў галаву іх сустрэчы за вёскаю, ля крыніцы, першыя пацалункі, цёплыя густыя туманы, якія, як тады здавалася, закрывалі іх ад чужога вока... Ды што цяпер пра гэта думаць. Цяпер у яго сям'я, дзеці. Вось пра каго трэба дбаць найперш. Не такі ўжо ён невыпраўны летуценнік, каб тое юначае захапленне, якое, да ўсяго, ужо мала хвалявала, зусім адабрала розум, змусіла паступіцца здабытымі цяжкаю працаю выгодамі, ці, дакладней, яшчэ толькі надзеямі на тыя выгоды, найперш на кватэру.

І ўсё ж... Яе бацькі сябруюць з ягонымі. Памагаюць адно аднаму, не раўнуючы, нібы самыя блізкія сваякі. Як яны хацелі парадніцца, як шкадавалі, што раскідалася вяселле. І цяпер адносяцца да яго, як да роднага. Што яны скажуць, калі даведаюцца (а даведаюцца ж, абавязкова даведаюцца), што ён, іх любімы Алік, зрабіў і без таго няўдачлівую іх дачку злачыннай. Значыць, толькі прытвараўся, што не трымае зла. Гэты гандаль, якім яна займаецца, у вёсцы не лічаць нечым надта заганным, адносяцца да такога занятку па-філасофску, маўляў, трэба ж неяк жыць. А камерцыяй цяпер не займаецца хіба што самы лянівы. Канечне ж, яны расцэняць яго прынцыповасць як помсту. Помсту за былую знявагу, за здраду дачкі. Уся вёска загаворыць, загудзе, хоць да бацькоў не прыязджай. Скажуць, ага, знайшоў Алік сякеру пад лаўкай. Як бач прысуд вынесуць, без пракурораў і адвакатаў на адмыеш ся. Бацькоў, напэўна, пачнуць заступаць на кожным кроку. Эх,

чаму ён не нарадзіўся ў горадзе? Хоць бы ў такім маленькім, у якім жыве цяпер. А яшчэ лепш, у вялікім, у гмаху на сотні кватэр, дзе нават суседзі па лесвічнай пляцоўцы нічога адно пра аднаго не ведаюць, не трэба ні на каго азірацца. Тут жа уся вёска, нібы адна сям'я. Яшчэ і з пакалення ў пакаленне будуць перадаваць гэтую, канечне ж, па-свойму вытлумачаную, гісторыю.

Думкі наплывалі і наплывалі, а рашэнне трэба было прымаць імгненна, зараз жа, не марудзячы. Няма гарантыі, што Сцяпан змаўчыць у аддзеле.

Цягнік тым часам грукнуў коламі, адкаціўся крыху назад, правадніца спытала, ці зачыняць ёй дзверы, жанчына хапілася за сумку, ірванулася да вагона. Сцяпан дагнаў яе, схапіў за руку, крыкнуў: "Алік, ну што ты стаіш?"

Алік падбег і схапіў яе за другую руку.

Імгненне, і цягнік ужо грукацеў, набіраў разгон, замільгалі вагоны...

— Бярыце мае рукі, бярыце, надзеньце на іх наручнікі, палонніца цягнула да іх свае ручаняты, істэрычна крычала, плакала, на Аліка не глядзела, нібы ігнаравала, а калі часам кідала погляд, дык нічога, акрамя пагарды, у ім нельга было прачытаць.

— Трэба будзе, і наручнікі надзенем, Сцяпан яшчэ не аддыхаўся, але гаварыў спакойна, яго эмоцыі чые б яны ні былі не хвалявалі, як, зрэшты, мала хвалявалі яны і Аліка. Ён толькі шкадаваў, што адпусціў учора аднакласніка.

## Крынічная балада

Вада выслізгвала проста з зямлі. Выходзіла плаўна, ледзь улоўна пульсавала, уздымалася малюсенькім пагорачкам і ператваралася ў ручаінку. Тоненькую, кволую... Здаецца, наступіш на яе, і яна памрэ. Але жыве вось ужо немавед колькі год, і нічога з ёю не робіцца. А якая гарэза гэтая кроха.

Кружыўся над ёю чорны альховы ліст, а яна яго цап, і панесла, панесла, круціць як хоча, падкідвае... Траву таксама хоча пацягнуць. Учапілася за валасы і не адпускае. Але тая моцна за зямлю карэннем трымаецца. З ёю маленькай гарэзе мерацца сіламі не выпадае. Слабенькая. Можа, з-за гэтага яе з абодвух бакоў ахоўваюць грубаватыя з выгляду вольхі. Крынічка гэты іскрысты жывы пагорачак яшчэ і жэрдкамі абнесена. Гэта ўжо людзі пастараліся. Ды во і яны самі. Расклалі агеньчык непадалёку, сядзяць сабе, смяюцца. І здаецца, быццам бы ўся гэтая мясціна маленькі Эдэм, рай.

— Праўда, здорава? — спытаў юнак.

— Ага. Каля гэтай крынічкі мне заўсёды добра. Малайцы, што абгарадзілі.

— А ты помніш, Ніна, калі мы яе гарадзілі?

— Помню, Стас, і ніколі не забуду. Ты прынёс мне тады букет бялюткіх кветак і сказаў: пралескі. А я засмяялася, запярэчыла, маўляў, гэта не пралескі, а кураслеп. Ты пакрыўдзіўся.

—...Але хутка мы паразумеліся і прызналіся, што кахаем адно аднаго. Гэта было тут, каля крынічкі.

— Я хачу, каб у дзень нашага вяселля мы таксама прыйшлі да гэтай крынічкі. Хачу ніколі не развітвацца з ёю. Яна такая чыстая, добрая. Нават калі між намі ўзнікне непаразуменне, мы

зноў прыйдзем сюды і ручаінка нас памірыць, як і той раз.

— Скуль ты ўзяла, што між намі можа быць нейкае непаразуменне?

* * *

Танцы ў клубе сама што разгараліся. Тупацелі ў шырокім коле дзесяткі два маладых людзей, штурхаючы адно аднаго локцямі пад музыку са старэнькай падрапанай кружэлкі, колькі чалавек сядзелі ля сцэны на адпаліраваных штанамі лаўках, яшчэ адна кампанія ўвальвалася ў дзвярны праём.

Якраз у той момант, калі нехта ставіў чаравік на выцертую падлогу залы, а нехта яшчэ стаяў на халодным бетоне парога, адбылася сустрэча. Да маладых людзей імкліва набліжалася з цемры асляпляльнасветлая пляміна. Матацыкл пераскочыў, нібы мячык, нізенькія прыступкі. Дзяўчаты запішчалі і кінуліся ў залу. Следам хлопцы. А Стас з Нінаю не паспелі разгубіліся.

Кола шаргатнула па доўгім жоўтым плашчы дзяўчыны, пазначыўшы яго тлустаю чорнаю рыскаю, пасля па назе, і ўперлася ў сцяну. Матацыкл заглох.

Святло разам з гаманою ды музыкаю церусілася з дзвярэй, асвятляла месца здарэння і тых, каго цікаўнасць выпхнула на вуліцу.

Ніна выцірала насовачкаю выпэцканую нагу і ўсё бурчэла, пераходзячы на ўсхліпы.

— Ну во, звярталася яна да ўсіх і ні да каго, цяпер і ў клуб не зайсці. Усё спаганіў. Першы раз апранула, і на табе, наскочыў чорт прыблудны. А калі не адмыецца? Надаваць бы па шыі за такое.

Стас рашуча ступіў да незнаёмца. Той, не зважаючы на пагрозу, знімаў шлем, адкрываючы рухавы рабы твар з маленькім і кірпатым, нібы ў малпы, носікам і жывымі д'ябальскімі вачыма.

А яшчэ паказваючы яршысты віхор над ілбом ды замест валасоў цёмна-жоўты медны дрот, што тапырыўся ва ўсе бакі. Пасля госць паказаў пальцам на Стаса і задзірыста зарагатаў, бліснуўшы жоўтым металам пярэдніх зубоў.

Знешне яны аказаліся непадобнымі да процілегласці. У Стаса была выпраўка бравага афіцэра, целасклад Геркулеса і пагляд наіўнага немаўля. Эдзя нагадваў ашчыпанага вераб'я.

— Стас? — верабей падскочыў да Геркулеса.

— Я...Апошні збянтэжыўся.

— І ты на мяне?.. Ты хіба не пазнаў мяне?

— Эдзік?

— Эдзік-Эдзік, і госць лёгенька тыцнуў нагою ў Стасаў нос. Здалося нехаця.

Той схаваў твар у далоні і прысланіўся да цаглянай сцяны. Эдзя паляпаў яго па масіўным плячы і зноў засмяяўся:

— Не прыдурвайся, Стас. Я ж ледзь дакрануўся. Ну, не хацеў я...

Стас працягнуў руку. Эдзя патрос яе. Астатнія былі назіральнікамі.

— Расказвай, адкуль прыпёрся. Сустрэча з былым аднакласнікам зацікавіла.

— Адкуль-адкуль з ямы, поўнай дзярма. Хіба не чуеце, чым ад мяне нясе? Знарок да вас на танцы з горада прыехаў. А тут, перад самым сялом, у яму з жыжаю ўскочыў. Вось як ты прымаеш мяне, родная мая вёсачка.

— Зараз паправім, няпэўна сказаў Стас і павярнуўся да Ніны. У цябе ў сумцы "Чырвоная Масква".

Нахіліўшы пляскатую бутэльчыну, Стас дзьмухнуў на рыльца, і на штаны легла дробная парфумная імжа.

— Усё, цяпер і сабака не ўчуе. Колькі ж мы не

бачыліся, га?

— Ды ў сёмым класе з'ехаў ад вас. А вы што, тут і засталіся? Нікуды не падаліся?

— Нашто? Трэба некаму і тут заставацца. Дый не шкадуем. Жывем дружна гарою адзін за аднаго. Гэта заспявала грудным голасам Ніна. Па інтанацыі адчувалася, што ад настрою, прынесенага з лесу, у яе нічога не засталося. А яшчэ ў голасе ўгадвалася нешта падобнае на выклік.

— Ну і дарэмна не шкадуеце. Але што з вас возьмеш. Адно слова калхоз.

— Хто тут проці калхоза? З цемры спачатку выплыла на святло круглая, нібы шар, галава з кудлатай чупрынай, пасля плечы шырокія і крутыя. Апошнімі з'явіліся керзачы з адгорнутымі халявамі. Чалавек паўтарыў: Ну, хто проці калхоза?

— Што яшчэ за тып, Сгас? Н-не прыпомню.

— Не бойся, ён не зачэпіць. Пабалаболіць і пойдзе. Гэта ж Сапун. Ну, каторы… І Стас пастукаў пальцам па скроні.

— А-а, успомніў, засмяяўся Эдзя, прапускаючы міма вушэй трэцім разам паўторанае Сапуном "хто проці калхоза". Ён мяне калісьці грабеньчыкам пужаў. Выйме з кішэні, выставіць, нібыта нож, ды як раўкне: "Ідзі сюды, прычындалле тваё адрэжу".

— Во-во, ён любіць гэтак папужаць.

— Ідзі сюды, хто проці калхоза, прычындалле адрэжу, — пацвердзіў Сапун гучна і адрывіста Эдзеў успамін і палез у кішэнь… Але дастаць грабеньчык не паспеў, бо сінія з белымі палоскамі красоўкі мільганулі ў яго перад вачыма.

Стас ледзь паспеў падхапіць Сапуна, каб не

разбіў патыліцу, як той што ёсць сілы ірвануўся з ягоных рук, азірнуўся, павёў здзічэлымі ад страху вачыма і пабег, спатыкаючыся і ледзь не кранаючыся носам зямлі.

— Нашто ты яго так? Стас паправіў на галаве "маладога бабра".

— А няхай не лезе са сваім грэбнем. Цяпер Эдзя нагадваў не вераб'я, а маленькага зубастага драпежніка.

— Дык ён жа...

— Дурны, дык няхай не лезе да разумных.

І ўсе змоўклі. У цішыні пачулася звонкае "цок-цок-цок..."

— Ніна, куды ты?.. Стас было памыкнуўся да яе...

-Не падыходзь, Стас.

Ты што, Ніна? Эдзік жа з табою за адной партай сядзеў. Табе не хочацца пагаварыць?

— Не, не хочацца.

Абцасікі застракаталі скарагаворкай.

— Ну, дзяроўня, невядом да каго звярнуўся Эдзя і асядлаў гарачага жалезнага каня.

— Чаго ты ехаў сюды, Эдзік? Толькі каб памахаць нагамі? Пэўна, болей ты нічога не ўмееш.

— Ну-ну, сядай, я адвязу цябе да вады. Сам запэцкаў, сам і адмыю.

— Не трэба. Пачышчу дома.

— А хочаш, я памыю самай чыстай вадою...

— Не хачу. Я бачыць цябе не магу.

— Некалі ж ты пісала мне пісьмы.

— Што табе да маіх пісьмаў. Ты на іх не адказваў.

— Бо я ніколі не любіў гэтую мазню. А ехаў я ўсё ж, каб цябе пабачыць.

— Пабачыў?

— Так.

— Ну і каціся.

— Ты ж не ведаеш, пра якую ваду я кажу.

— А я не хачу ведаць.

— От, дзяроўня дурная.

— Не дурней за басякоў гарадскіх.

— Псіхованая.

— Прыстукнуты.

— Сядай. Я ж кахаю цябе, дурненькая. Вечар ператварыўся ў ноч.

Сыпанулі з неба халоднаю імжою вастрадзюбыя зоркі. І зрабілася неба чорным і слізкахалодным. І месяц закрываўся ад людзей цёмнаю заслонкаю хмар. І быў страх. І валасы спляталіся з травою, а вушы лавілі адчайныя, зусім як чалавечыя, крыкі лесу. І душа аддзялялася ад цела і вісела над прамоклымі вершалінамі на сцюдзёным вятрыску. І хацелася глынуць з чыстае крынічкі.

***

— Эдзік, ты што. Што ты робіш. Спыніся. Спыніся, прашу цябе. Ніна барабаніла кулачкамі па абыякавай да ўдараў спіне Эдзі, а калі матацыкл спыніўся, саскочыла на траву, адышла, села пад згорбленую хвою каля цёплага яшчэ кастрышча, і яе плечыкі ў жоўтай балонцы плашча сутаргава закалаціліся.

— Здымі плашч я замыю. Эдзя стаяў каля матацыкла. Паабапал валяліся патрушчаныя белыя жэрдкі. Пярэдняе кола стаяла якраз на тым месцы, дзе павінен быць пагорачак-крынічка, а задняе прыдушыла ручаінку.

Ніна плакала.

Эдзю надакучыла ўгаворваць яе, і ён, разарваўшы колам матацыкла кволае горла ручаінкі, растаў у цемрыве чырвонаю znічкаю

ліхтарыка-габарыта.

Запульсаваў на ранейшым сваім месцы празрысты пагорачак. Пабліскваючы ў месячным святле, з яго, нібыта нітачка з кудзелі, выцягнулася гарэзлівае імклівае стварэнне, пераскочыла цераз абломак жэрдкі, што звісала ў цемрыве надламаным бокам, падхапіла танюткі кавалачак маладой кары і панесла ўніз, хутка залечваючы нанесеныя жалезнаю пачварай раны.

***

...Глыні крынічнае вадзіцы...

## Янкаў сон

"Сход! Сход! Сход! Усе на сход! Дзынь-дзынь-дзынь", заклікае званочак дзятву ў самы вялікі клас. І вось усе сабраліся і дырэктар пачаў:

— Сёння, шаноўныя вучні, вам трэба зрабіць важны выбар. Мы з году ў год выслухоўваем вашыя скаргі на тое, што ў праграме навучання шмат лішняга, незразумелага і непатрэбнага. Асабліва гэта датычыцца літаратуры. Таму сёння і правядзем галасаванне па гэтай дысцыпліне. Астатнія пакуль на парадак дня ставіць не будзем. Давайце вызначымся з вамі, якіх пісьменнікаў выкінуць з праграмы, якіх пакінуць, а якіх уключыць у яе".

Пакуль Янка кумекаў-меркаваў, каго ж можна выкінуць з праграмы, першым ускочыў з лаўкі несусветны двоечнік з бандыцкімі замашкамі Пятрок Шыпулька, які за сем гадоў вучобы ні разу не падняў на ўроку рукі.

— А што тут рашаць, рубануў з-за вуха гэты завугольны аўтарытэт, якога Янка больш за усіх у класе баяўся за яго нахабства і помслівы характар. Усіх, каторыя цяперака ў праграме, трэбы вытурыць прэч на які глухі сметнік, а замест іх... Замест іх... Ну, як яго... Гэтага... Ну...

— Забыўся, хіхікнуў нехта ззаду і прыкрыў галаву рукамі. Але не ўбярогся. Шыпулька таўшчэзнай хрэстаматыяй з усяго маху агрэў насмешніка па карку.

— Мо Чэйза? — шапнуў Петракоў сябрук Шурык.

— Якога Чэйза, прыдурак. Трэба гэтага, ну, Жоржа... Жоржа...

— Жорж Санд? Дык то не ён, а яна. Жорж Санд — жанчына, — здагадалася прыгажуня з

восьмага класа па імені Жанна.

А ну вас, ідыёты, незадаволена махнуў рукою Шыпулька і сеў.

А чаму б і Чэйза не ўвесці? Чым нейкімі там Дастаеўскім альбо Гогалем мазгі задурваць, якія пішуць адно, а трэба падразумяваць нешта зусім іншае, дык лепей Чэйза. Там усё зразумела і цікава, загулі некалькі галасоў, а Янка сядзеў і маўчаў, бо ні Чэйза, ні Жорж Санд не чытаў, затое захопліваўся якраз Дастаеўскім ды Гогалем.

— Ну, а акрамя дэтэктываў? паставіў пытанне дырэктар.

— Фантастыку!

— Якую?

— Любую!

— Цікавую!

— І прыгоды!

— І Тарзана яшчэ, Тарзана!

— Кнігі з серыі жахаў, — Я ад іх мле-е-е-ю.

— А пра каханне? — праспявала надта ж сентыментальным голасам яшчэ адна школьная прыгажуня Віка, якая з восьмага класа бегала на танцулькі і валачылася за хлопцамі. Жанна падтрымала сяброўку і ўдакладніла:

— Ма-до-о-онну-у-у.

Янка не верыў вачам. Тыя, хто на ўроках сядзеў, як тыя мышы пад дзеркачом, тут паказалі гэтакі спрыт, што Янку зрабілася страшна. Паспрабуй скажы што супраць, калі ўсе гэтак настроены. З іншага боку, Янку вельмі шкада стала тых мілых, разумных і добрых пісьменнікаў, якіх паспеў моцна палюбіць.

Калі вэрхал крышачку сціх, ён такі асмеліўся падняць руку. Яго маленькая, як у дзяўчынкі, далонька прыцягнула ўвагу ўсіх. Ведама ж,

круглы выдатнік, вундэркінд. Кожнаму цікава, што ж скажа ён?

— Даруйце, нясмела пачаў Янка, я не чытаў ні Крысці, ні Чэйза. Тарзана чытаў, і прыгодніцкія кнігі, і фантастыку. Я думаю, навошта ўключаць у праграму Тарзана, яго і так усе прачытаюць. А я дзве першыя кніжкі прагартаў і выкінуў, нічога для душы не знайшоў (сход нягучна зашумеў). Прыгоды і фантастыка таксама розныя ёсць, дык трэба выбраць такія, каб яны рабілі нас лепшымі. Іх можна дадаць да праграмных твораў, а выкідваць нічога не трэба. Хіба ж можна выкінуць Купалу ды Коласа, ці Змітрака Бядулю, ці Кузьму Чорнага, ці, вунь, Някрасава, Лерман…

Тут левая шчака Янкі моцна запякла і ён ажно прысеў. З вачэй пырснулі слёзы. Гэта Шыпулька стрэльнуў у яго з маленькай рагаткі. Нехта, па прыкладзе Петрака, агрэў яго партфелем па спіне. А пасля невядома колькі дужых рук запхнулі Янку пад лаўку.

Хлопец яшчэ пачуў, як нейкая дзяўчынка запішчала: "Што вы робіце, што ён такога сказаў, ён жа правільна..."і, войкнуўшы, заплакала. Відаць, нехта балюча тузануў яе за касу.

— Мы што, будзем слухацца гэтага плаксівага слізняка, га?Грымеў на ўвесь клас Шыпулька, які раптам адчуў у сабе нечуваную сілу. Давайце галасуйма, бо зараз як…

Янка высунуў з-пад парты галаву і спалохана круціў ёю вакол сябе. За тое, каб выкінуць з праграмы ўсіх пісьменнікаў, якія былі ў ёй, і ўвесці ў яе прапанаваных Жорж Санд, Чэйза, Агату Крысці ды іншых, падняўся лес рук. У хлопца зайшлося сэрца.

— Шыпулька! — крыкнуў, не чуючы і не помнячы сябе ад хвалявання, Янка. Калі зараз вы прамяняеце Талстога на Чэйза, а Кузьму

Чорнага на Крысці, я ніколі больш не дам вам спісваць хатнія заданні. Ні па хіміі, на па матэматыцы, ні па…

— Ха, напалохаў. Шыпулька абыякава-задаволена скрывіўся і паказаў цераз плячо вялікім пальцам на смешнага ў сваёй рашучасці, натапыранага Янку. Атрымаеш у патыліцу, дык дасі. Нікуды не дзенешся.

— Паміраць буду, а не дам. _ Увесь Янкаў выгляд пацвярджаў, што і напраўду не дасць.

— Не дасі, і не трэба. Мы прагаласуем яшчэ і за замену гэтых прадметаў іншымі, дзе не трэба ўрокаў рабіць.

— Шыпулька пераможна зірнуў на клас: Ну што, суркі, хто за замену?

Супраць прагаласавалі ўсяго па некалькі чалавек з кожнага класа. З Янкавага, восьмага, трое: Мікола, які хоць вучыўся слабавата, але заўсёды быў сур'ёзным і да яго не чапляўся нават Пятрок, і яшчэ дзве кандыдаткі ў выдатніцы. Яны ўсё марылі дагнаць па вучобе Янку і па-добраму зайздросцілі яму. Зайздросцілі і паважалі. Янка ніколі не выхваляўся сваім розумам, быў сціплым. Чаму ж яго не паважаць. Спісваць ён таксама нікому не шкадаваў. Таму яго, як і Міколу, і дзяўчат-выдатніц, вельмі здзіўляла: чаму тыя, каго Янка часцей за ўсё выручаў, хто часцей за ўсіх карыстаўся ягонымі дабрынёй і працаю, цяпер аднесліся да яго з найбольшай жорсткасцю: з рагаткі па ім, сапляком абазвалі, ранцам агрэлі, у каршэнь натаўклі?..

Хлопцу закарцела запратэставаць зноў. Адкуль толькі бралася тая смеласць. Нічога, што галасаванне ўжо запратакаліравала, што цягнік, як той казаў, адышоў. Зараз ён дасць ім разгон, пацягае за чупрыну Петрака, дасць па шыі яшчэ

каму…

Але што гэта? Янка намагаецца ўстаць, а быццам стопудовая гіра цягне яго ўніз. Хоча закрычаць, а з горла вырываецца адно толькі шыпенне, як у гусака. Ён яшчэ больш высільваецца, колькі ёсць сілы, і… вочы міжволі расплюшчваюцца.

Янка азіраецца і пачынае смяяцца, задаволены тым, што гэта быў усяго толькі сон. Самы звычайны, няхай сабе і жудасны, сон. Ён ускоквае з ложка, узбрыквае, як тое жарабя, і доўга-доўга гарлае на ўсю хату:

— Ура, гэта сон! Ура, гэта сон! Ура? Гэта сон?

## КАРОТКІЯ ПРЫПАВЕСЦІ

Жыў-быў народ. Адны яго прадстаўнікі лускалі семкі так сабе, іншыя імі закусвалі.

Першым жылося цяжка, другім яшчэ цяжэй. Але яны чамусьці не думалі, як жыццё лепшым зрабіць. Яны шукалі таго, на кім можна было б усю сваю злосць за напакутаванае вымасціць.

І вось знайшлі ганцываўсеканцы Нірыбунімяса.

— Будзеш нашым уладаром? спыталі ў яго. Нірыбанімяса адно плячыма пацiснуў.

— Ага, значыць, будзеш!

І ўсцягнулі яго на высокую трыбуну, яшчэвышэйшы трон. Крычаў народ:

— Слава ўладару! Слава нашаму спасіцелю!

Пасля разышліся хто куды і зноў пачалі адны лускаць семкі проста так, а іншыя закусваць імі.

Нірыбанімяса еў семкі палусканыя і самыя буйныя, а каб быць бліжэй да народа, часам таксама закусваў імі самагон-гарэлку.

Калі людзі ўбачылі, што іх жыццё не палепшылася, прыйшлі да Нірыбынімяса і вымасцілі на ім усю сваю злосць. Яе аказалася гэтак многа, што Нірыбанімяса памёр.

"На кім жа цяпер злосць вымошчваць?!" забедаваў народ.

І тут знайшоўся ў натоўпе чалавек, якога ўсе клікалі Хоцьдараныпрыкладай. Такі ўжо ён добры, так яму ўсіх шкада зрабілася, што сам вызваўся памагчы свайму народу.

— Людзі мілыя, людзі харошыя, маліў ён натоўп, шчыра прыклаўшы да сэрца руку. Кіньце лускаць семкі і кіньце закусваць імі ды займіцеся якою справаю. Тады і зажывеце лепей.

— Бач, які разумнік, вучыць ён нас будзе, раззлаваўся натоўп і якбач вымасціў на

Хоцьдараныпрыкладай усю сваю злосць. Ды так, што той сам суцэльнаю ранай зрабіўся.

- Гэта ўсё слабакі, расчаравана загудзеў натоўп.

Вымошчваць злосць на слабаках ужо зрабілася нецікава.

— Вось бы сюды Моцнуюруку, крыкнуў нехта.

— Моцнуюруку, Моцнуюруку, — заскандзіраваў натоўп.

Выйшаў Моцнаярука.

— Лепшае жыццё ўсім адразу я зрабіць не змагу, сказаў ён. Спачатку яго атрымаюць абраныя, а пасля і ўсе астатнія.

— Правільна! Гэты калі сказаў зробіць, узрадаваўся натоўп і разышоўся. І кожны спадзяваўся, што апынецца ў ліку абраных.

Аднак абранымі сталі самыя моцныя, самыя нахабныя, самыя жорсткія.

Моцнаярука дазволіў ім адабраць у слабейшых частку найпаўнейшых семак і найсмачнейшага пітва. І тады народ зажыў яшчэ горш, а абраныя як сам уладар. Нябавам людзі зноў сабраліся, каб вымасціць злосць на тым, каго дзеля гэтага ўзнеслі на трон. Ды абраныя іх і блізка да Уладара не падпусцілі.

Так і жывуць яны дасюль. Лускаюць семкі, зло спачатку заліваюць самагонам-гарэлкай, а тады вымошчваюць яго адно на адным, бо больш няма на кім.

* * *

Раней ён быў з некім. Пасля ні з кім. І калі застаўся ў самаце, шмат хто пачаў клікаць яго да сябе. Адным ён падабаўся дужы, разумны, прыстойны і зусім не патрабавальны, іншыя шкадавалі яго. Як жа, адзінадзінюткі. Аднаму нельга. Адзін прападзе, нават калі мацнейшы за ўсіх.

— Хадзі да нас, клікалі адсюль.

— Мы насцелем табе самую мяккую пярыну.

— А мы будзем карміць іпаіць цябе найсмачнейшымі стравамі і пітвом.

— Мы апранем і абагрэем цябе.

— Мы будзем выконваць усе твае прыхамаці.

— Мы пасадзім цябе на трон, і ты будзеш нам богам зямным.

Не пайшоў. Падаўся ад усіх у непралазны гушчар. Пачуў наўздагон: "Дурань! На што разменьваеш бесклапотнасць і раскошу!" Махнуў рукой: "Я ўжо як-небудзь сам".

Глыбока ў пушчу зашыўся.

— Тут, -сказаў сабе і дрэвам, якія не пачулі яго, пабудаваў у гушчары харомы. Сам сабе жыць пачаў.

Тым часам дабрадзеі, што клікалі яго да сябе, біцца між сабою пачалі. Тыя, хто выжыў, пайшлі, куды вочы глядзяць, паратунку шукаць. І знайшлі яго ў харомах пасярод гушчару. Гаспадар усіх і накарміў, і апрануў, і прытуліў.

# ПАРАНЕНЫЯ МАРЫ

## ХВАЛЯВАННЕ

Перад чыстым аркушам паперы, як перад аўдыторыяй. Калі закарціць выказацца, пралётаю перад аркушам. І... губляюся. Блытаюцца думкі, якія зусім нядаўна здаваліся гэткімі дакладнымі, яснымі і ўпарадкаванымі. Нібыта на мяне глядзяць сотні вачэй, чакаюць, што скажу, а я ад хвалявання забыўся вызубраны тэкст. Як бывала некалі ў школе. Ажно ў горле перасохла...

## НЕДАВЕР

Нішто так не псуе чалавека, як недавер бліжняга. Ён насамрэч робіцца падазроным тыпам, а недавер робіцца апраўданым. З часам ён (недавер) ператвараецца ў пагарду, і яна канчаткова знішчае чалавека. Па праўдзе, знішчае абодвух: аднаго звонку, другога знутры. То ці не лепш давяраць людзям. Нават тады, калі яны таго не заслугоўваюць. Можа, давер якраз і выратуе: на аднаго паўздзейнічае знутры, на другога звонку.

## ЧЫТАЧ і ТВОРЦА

Прысніцца ж такое: нібыта я кажу аднаму вялікаму класіку, маўляў, што ж гэта робіцца, яго, мысліцеля, філосафа і проста разумнага і добрага чалавека, які творамі паказваў людзям арыенціры ў жыцці, сучасныя разумнікі чытаюць проста так, дзеля моды, нібы збіраюць маркі альбо этыкеткі. А той класік мне і адказвае (горка так усміхаючыся): дзякаваць Богу, хоць так чытаюць. І ўсё гладзіць і

супакойвае мяне: абы чытаюць, дзетачка, няхай чытаюць. І я падумаў у сне, што, мабыць, яны, гэтыя калекцыянеры-чытачы, апошняя надзея генія.

## ПРЫКМЕТА ЧАСУ

Маладая бібліятэкарка з вышэйшай адукацыяй пайшла на самы буйны ў гарадку завод і папрасілася на працу... прыбіральшчыцай. Тут, аказваецца, прыбіральшчыца атрымлівае значна больш, чым у бібліятэцы спецыяліст з вышэйшай адукацыяй. Дырэктар паглядзеў на яе скрушна, з разуменнем, аднак у просьбе адмовіў, сказаў, што яго няправільна зразумеюць і наверсе, і тут, у горадзе. Ты ўжо лепей працуй па спецыяльнасці кінуў ён расчулена на развітанне.

## БУЛЬБА

Бульба нам не толькі сала з хлебам,
Бульба гэта наш сялянскі бог.

Гэтыя радкі іванаўскага паэта Андрэя Мазько навялі на думку, што бульба для беларуса сапраўды нешта куды большае, чым проста ежа. Да каго б са сваякоў ні заехаў, першае пытанне, а ці ж садзіце вы бульбу, і калі садзіце, дык ці шмат і ці ўрадзіла. І чым больш у цябе пасаджана бульбы, ды чым лепей яна ўрадзіла, тым большая да цябе пашана. Па аналогіі, чым набожнейшы чалавек, тым да яго таксама ж большая павага.

## НАВУКА

На адной са сваіх лекцый гэтая разумная і не па гадах маладжавая жанчына расказвала пра тое, што шкодна стрымліваць сябе, калі хочацца,

так бы мовіць, павяламу . Маўляў, таксіны з калу ўсмоктваюцца ў кроў, ну, і гэтак далей. Усё правільна яна казала. Аднак пасля таго выступлення калі б ні згледзеў яе, кожнага разу прыходзіць на памяць менавіта гэты эпізод. І ўнутраны голас гарэзліва насміхаецца: глядзі, пайшла тая, што не носіць у сабе..., а адразу ж, як прыпячэ, апаражняецца. У нас у вёсцы пра тое ж самае казалі неяк прасцей, па-свойску: «Есці не с...ць, можна і пачакаць».

## ВОЛЯ

Самы вольны той чалавек, які не заўважае сваёй няволі. Бо ўсё роўна ж «Нельга жыць у грамадстве і быць вольным ад яго».

## ЧАС

Калі нічога не робіш, проста сядзіш бяздумна і без справы, то час запавольваецца, расцягваецца. Аднак расцягваецца толькі спераду, а ззаду, наадварот, сціскаецца, як адпушчаная пасля расцягвання гума. Яшчэ і лупцане, чаго добрага, па мяккім месцы. І наадварот: калі захоплена працуеш, то ўжо карацее час спераду, затое ззаду ўсё зробленае ніяк не ўмяшчаецца ў кароценькія імгненні, і яно расцягваецца. І чым больш за гэтае умоўнае імгненне ты зрабіў, тым яно даўжэйшае.

## ВЕРА

Вясковая хата. На адной сцяне у рамцы карціна, на якой Ленін выступае перад працоўным людам, а на процілеглай якраз насупраць выява Хрыста. Пасярэдзіне ж, на лаве, знябожаная

сялянка, якая і да атэізму не «дайшла», і існую веру ў Бога згубіла недзе на калдобінах жыцця.

## МАСТАК

Анатоль Бурак выдатны мастак з вёскі Дастоева і намеснік дырэктара тамтэйшай школы. Некалі прасіў у яго, каб намаляваў карціну, і во прывёз. Стагі ў тумане, а ў вышыні цьмяны месячык. Ударылі па руках. Сядзім, п ем піва. Ён заплюшчвае вочы, і пачынае словамі маляваць ваколіцы Дастоева расказвае, нібы кнігу чытае. Складна. Па-беларуску. Пытаюся: «Як Вы ўсё помніце?». А ён: «Гэта ж я во зараз якраз сачыняю. Гэта я знарок, каб спытаць, ці варта мне вось такім сачыніцельствам займацца». Мне спадабалася ўсё, што ён так захоплена жывал Ісаў, і я сказаў пра гэта. А ён на развітанне расказаў яшчэ пра аднаго свайго каларытнага земляка, у якога пальцы былі такія тоўстыя, што капейкі імі са стала падбіраць аніяк не мог, не існавала і рукавіц альбо пальчатак, якія б на яго руку налезлі. Звычайна, калі ён зімою, у мароз, едзе на возе, то, каб пагрэць рукі, пабе-пабе свае паленніпальцы аб аглоблю і парадак.

## ПАДШЫПНІК

У канторы, што гандлюе падшыпнікамі, селянін пытае:

— Ці ёсць у вас падшыпнік да воза? Ну, той, што ў буксу.

— Вы нумар скажыце.

— Які нумар?

— Ну, які іменна падшыпнік патрэбен.

— А вось які: тры пальцы не ўлазяць, а тры заслабка.

Пасмяяліся хлопцы з дзеда, але падшыпнік знайшлі. Нумар яго 7606. Дзед ім за дапамогу слоік мёду пасля прывёз.

## МАГНІТ

Не раскрываюся цалкам нават перад самім сабою, не тое што перад іншымі. Здаецца, як толькі раскрыю нейкую таямніцу ў сабе, то ўжо стану нецікавым ні сабе, ні іншым. Папросту, перастану быць, рассыплюся. Як бы гэтая таямніца адмысловы магніт, да якога прыцягнута ўсё астатняе маё і вонкавае, і ўнутранае.

## ПІЛІП

У Вялікую Айчынную выйну на Палессі здарыўся такі выпадак.

Немцы западозрылі ў пакушэнні на паліцэйскі ўчастак маладога вясковага музыку і змусілі яго на вачах ва ўсіх вяскоўцаў капаць сабе яму. Чалавек звалі яго Піліпам выкапаў тую магілу і стаў, як яму загадалі, на самым яе ўскрайку. Адно папрасіў у афіцэра пайграць перад смерцю на гармоніку. Інструмент быў прынесены і ён зайграў. Ён быў добрым гарманістам, а тут і ўвогуле так зайграў, што ўсе знерухомелі. Немцы, паланёныя музычным талентам хлопца, падаравалі яму жыццё.

Да гэтага часу блукае Піліп у самаробным цыратовым плашчы па навакольных вёсках, іграе на вяселлях (ды як хараша), патрабуючы за гэта толькі начлег ды пачастунак.

## ПРА ЧАРКУ

Першая колам, другая саколам, а трэцяя як

паляціць.

## ЖОНКА і ПАРКАН

Была б у цябе жонка, то і яна трымалася б за цябе, і ты за яе як п'яны за паркан.

## ЦЕНЬ

Я цень. Але не той, што адбіваецца ад чалавека, а той, ад якога адбіваецца чалавек.

## ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ ЛЯЛЬКА

З усіх бакоў толькі і чую: чарнобыль, чарнобыль, чарнобыль...

Павінен бы адчуваць небяспеку. Але па-сапраўднаму адчуў яе толькі пасля таго, як мая пяцігадовая дачушка, убачыўшы звычайную пластмасавую ляльку з адкручанымі рукамі і нагамі, па-дзіцячы эмацыянальна прашчабятала: 'Тата, тата, глядзі, чарнобыльская лялька".

## ЭВАЛЮЦЫЯ ВЁСКІ

Учора: выткаць ручнік што песню напісаць. Сёння: ні ручніка, ні песні... Глядзім "Паветраныя замкі".

Заўтра: "буду валютнай прастытуткай...".

## АГМЕНЬ

Агонь грызе палена доўгімі жоўтымі зубамі. Як стары бабёр.

## АПОШНЯЕ СЛОВА

У 35 год ён моцна захварэў і падрыхтаваўся паміраць. І перад смерцю так закарцела выказаца. І выказваўся 65 год.

## КАЛАМБУР

З таго, што я мог бы зрабіць, зрабіў толькі тое, чаго не мог не зрабіць.

## У КАГО СПАВЯДАЦЦА?

Ні з тага ні з сяго ірванулі з Андрэем Мазько ў Белаазёрск да шаноўнай Ніны Мацяш. Так хораша пра ўсё пагаварылі. Яна расказала пра святога айца, у якога спавядалася. Ён запатрабаваў, каб па-руску. Між тым спавядацца, калі ўжо на тое, не яна, а ў яе павінны.

## У ХЛОПЧЫК У АКНЕ

Еду за рулём аўтамабіля. Даганяю легкавік. У заднім акне тварык хлопчыка. Цікаўны такі. Мне раптам гэтак закарцела тым хлопчыкам стаць.

## ЗАПАВЕТ

Абыходзь упэўненых яны недалёкія. Цягніся да тых, хто сумняваецца яны шукаюць.

## ЧАЛАВЕК ЦЭЛЫ СУСВЕТ?

Як хораша сказаў у свой час Кузьма Чорны: "Чалавек гэта цэлы сусвет".

Праўда, часам як наглядзішся на гэтыя "сусветы", дык аж страх бярэ: набор комплексаў не болей.

## ПАДАРУНАК

Здаецца, яна нават калі і дарыць нешта некаму, дык не дзеля тых, каму дарыць, а дзеля сябе, маўляў, во, гэта ж я, я, я…

## МЫ і ЧАС

Толькі тое і робім: то прыспешваем час, то імкнёмся супыніць яго.

## СТАРЦЕР

Пахвала для творцы, што старцер для машыны. Заводзіць.

## ПАЛЕНА

Калоў паленне на самым тоўстым цурбаку. А як пакалоў, то хапіўся і за яго. Ды раптам адумаўся: гэта ж мой памагаты. І апусціў сякеру.

## КАРОВА і СЯЛЯНКА

Па абочыне клыпаюць карова і сялянка. Паміж імі вяроўка. Хто каго вядзе? Здаецца, парвецца яна, і спадарожнікі пагубляюць адно аднаго. Карова сама сабе забрыдзе невядома куды, жанчына сама сабе заблудзіцца. Ім ніяк нельга паасобку.

## АПОШНІ СНЕГ

Горка пацямнелага снегу на чорнай зямлі плавілася гэтак хутка, нібы грудка тлушчу на гарачай патэльні.

Хутка грудачкаператварылася ў лужыну. А ў

яе ўпаў жаўток чырвонае веснавое сонца.

## ГУКІ ПЕРШАГА СПАТКАННЯ

Жанчына расказвае пра першае ў яе жыцці спатканне з хлопцам у глухой палескай вёсачцы:

— Сядзім на лаўцы, маўчым. Прайшла адна гадзіна, другая. Яму пад ногі падлез нейкі прыблудны кот і мяўкае, мяўкае. Кавалер мой тады хапае яго за каршэнь ды шпурлець за плот, у гародчык, у густы гарбузоўнік. Кот разарваў цішыню пранізлівым крыкам. І зноў цішыня, чутно, як шамаціць у траве жучок. Усталі. Хлопец моўчкі дахаты правёў, сталі каля хлява. Зноў цішыня. І тут у хляве: ляп, ляп… Карова ляпае.

## ПАМАДНЫ КІЁЧАК

Адна цётка неяк пабіла свайго зяця кіем за тое, што той здраджваў жонцы (яе дачцэ). Зараз яны жывуць душа ў душу, усе трое.

Але вяскоўцы, бывае, не-не дый успамінаюць пра той выпадак. Маўляў, Маня, а ці не пазычыш свайго памацнога (лекавага, значыць) кіёчка, бо нешта і мой прыхварэў.

## ЯК ЗДАРОЎЕ?

У старшыні райспорткамітэта пацікавіўся здароўем.

— Ведаеш, адказвае, у маладосці неяк, помніцца, шыбую па Мінску, і адчуваю (ну, проста фізічна), што зараз калі заляплю гэтаму ці таму прахожаму нагой пад зад, дык метраў пяць праляціць. Цяпер адчуванне такое, каб сабе хто не даў.

## БЕЛАЯ "ТАБЛЕТКА"

Знаёмы расказаў гісторыю, якая ўжо гадоў сем-восем просіцца на паперу.

Мы трое хлопцаў і чацвёра дзяўчат адбываем начную змену на таку. Мне падабаюцца дзве — будучая швачка Жанна і будучая бухгалтарка Алёна. Дзве астатнія непрыгожыя. Яны быццам з-за таго, што саромеліся свайго выгляду, не падаліся вучыцца далей, а пасля школы сталі даяркамі.

Жанну я палюбіў. Зграбная, свежая, незалежная... Пахла тонкімі духамі. Трымалася годна і нікога блізка не падпускала. Мяне калгаснага слесара і ваўкаватага хлопца тым больш. Я разумеў: пажыла ў абласным цэнтры, прывыкла да гарадскіх разняволеных, дзёрзкіх, дагледжаных.

Зімою Жанна прыходзіла ў клуб у белай "таблетцы". І гэтак яна ёй пасавала вачэй не адвесці. "Таблетка" стала для мяне сімвалам гарадской дзяўчыны. Вечарам яна здалёк свяціла мне недасягальнаю зорачкай, змушала шалёна калаціцца сэрца.

За сваё жыццё толькі аднойчы я правёў Жанну дахаты. Яна ўжо працавала ў нашым сельскім КБА швачкай. Пашыла мне са штучнай скуры куртку, плашч. Цяпер з жахам гляджу на гэтае барахло. Тады гатовы быў не здымаць і на ноч.

Жанна адкрыла мне свае планы (не ад празмернай шчырасці, а каб наталіць самалюбства) і зрабілася яшчэ больш недасягальнай. Сам "першы" запрашаў яе да сябе працаваць у райкоме камсамола. І нават абяцаў кватэру. Прапанова гэтак захапіла дзяўчыну, што яна разоў сто за вечар паўтарыла "райком", "кватэра", "горад". А я асабліва востра адчуў сваю нікчэмнасць.

З таго часу прайшло ўсяго дзесятак гадоў. Дробязь. А колькі перамен. За гэтыя гады адышлі ў нябыт і камсамол, і партыя... Сябры перацягнулі мяне ў горад як спяца па маторах, і мы "на хаце" рамантавалі "іншамаркі". За долары, вядома.

Нядаўна заскочыў на сваім "Мэрсе" у вёску і нарваўся на белую "таблетку". Жаданне прытуліць яе да сябе не прайшло.

— Не прытуліш — фермаю пахне, — засмяяўся сябрук. І сказаў, што Жанна даярка. Філіял КБА ліквідавалі. Можна было ў школу, тэхнічкаю. Не захацела. У краме ўсе месцы заняты "сваімі". Сабралася ў дзіцячы садок поварам, а яго закрылі. Падалася ў кладаўшчыкі, заплаціла адзін раз за нястачу, уцякла. А на ферме прыжылася. Мужа прыдбала здалёк, бо тутэйшымі хлапцамі пагарджала, і яны махнулі на яе рукой. Той, "далёкі", хадзіў пару разоў па яе рэбрах ботамі за востры язычок і за пыху. Напіўшыся, яна праклінае ферму. Але даіць не кідае дзець сябе больш няма куды. І грошы трэба, бо растуць малыя. Аж шкада яе гэтак рана згубіла маладосць.

— А "таблетку", бач, усё яшчэ носіць, — усміхнуўся сябруку.

— О, гэтая "таблетка" ужо і ў транспарцёры з гноем пабывала...

## СУМНЕВЫ

Прыехаў у сваю вёску адпачыць ад рэпарцёрскай калатнечы і напісаць апавяданне. У поўнай цішы і ў спакоі — найперш душэўным.

Бацька (ён адзін тут жыве) валтузіцца на кухні, стругае клёпкі, майструе цэбар. Гэта ж колькі работы, а прадасць за капейкі. Ён, мусіць, больш радуецца таму, што людзям патрэбны,

што ледзь не кожны вясковец яго цэбрамі карыстаецца, чым грашам. А раней жа і куфры рабіў.

Пад самым акном (маім акном, перад ім выседжваю цалюткі дзень) вуллі на крывых паленцах-ножках уперамешку з яблынямі, крыху далей, адразу за гародчыкам, канава, з якой шчаціняцца маладымі пруткамі вярбовыя пянькі (колькі ні сячы іх, лезуць і лезуць), за канаваю - поплаў, дарога і... старыя могілкі, абгароджаныя новым плотам. Летам за яблынямі ды вербалозам і не бачна тых могілак. А зараз зіма адно што без снегу і марозу і ўсё празрыстае: і садок, і паветра, і нават неба з белым, аж падсіненым, нібы накрухмаленым, сонцам на ім.

Чым больш пішу, тым больш сумняваюся: можа, дарма я гэтак сур'ёзна стаўлюся да сваіх літаратурных заняткаў? Бач ты, з'ехаў з дому, ад сям'і, на некалькі дзён, параскладваў па ўсёй хаце паперы, кнігі, газеты... А ці атрымаецца з усяго гэтага які толк?! Каб жа ведаў, дык альбо з большаю ахвотай карпеў над паперай, альбо кінуў усё, заняўся чым карысным для сям'і. Людзі, вунь, круцяцца, нажываюць дабро, дзеці яшчэ шкаляры, а яны ўжо ім кватэры вымуроўваюць... А тут сядзіш адзін, як воўк, а ў гэты час сям'і, можа, якраз тваёй прысутнасці і не хапае. Але ж сядзеў бы ці так, ці гэтак, бо аж чэрці носяць, як прыпячэ. Так што лепш, можа, і не ведаць, як яно будзе і што атрымаецца з твайго пісання. У наймудрэйшага Янкі Брыля знайшоў адно "Вячэрняе" прызнанне: "Чытаючы рукапіс Калюгавых "Пустадомкаў", дзе пра пачынаючага паэта, успомніў, як я ў раннім юнацтве і не аднойчы даходзіў да адчування, што калі не стану пісьменнікам, дык мне наогул няма ў жыцці страшэннае няма! анічога...". Трэба ж, нават сам

Янка Брыль сумняваўся.

## СПАГАДА

— Бабуля, у мяне баліць галава, хныча малая.

— А, дзіцятка маё, шкадуе ўнучачку бабуля, пакутліва моршчыцца, ледзь стрымліваецца, каб не застагнаць. Бабуля ўжо не ведае, дзе ў яе не баліць.

— А, дзіцятка маё, хадзі я цябе пашкадую.

## СЛАВА

Ён вельмі хацеў праславіцца. І праславіўся. Тым, што вельмі хацеў праславіцца.

## ЧАРКА

Я чарка, запоўненая МАЁЙ ІСНАСЦЮ.

Калі я пачынаю займацца не сваёй справай, чарка хістаецца на калдобінах жыцця, і гэтая МАЯ ІСНАСЦЬ нібыта выплёхваецца з мяне.

Некалі, у малым-малым дзяцінстве, нехта сказаў мне: ты павінен зрабіць у жыцці нешта незвычайнае. Той нехта ўкінуў у напоўненую МАЁЙ ІСНАСЦЮ чарку зярнятка, якое, праросшы, напэўна, і павінна стаць тым незвычайным.

Як вадкасць, калі яе патрывожыш, пачынае хвалявацца, разыходзіцца па паверхні кругамі, так МАЯ ІСНАСЦЬ тады ўсхадзілася, а пасля супакоілася.

Укінутае зярнятка можна выплетуць з чаркі толькі разам з МАЁЙ ІСНАСЦЮ. Значыць, і прарасці яно можа толькі ў МАЁЙ ІСНАСЦІ. Але я не ведаю, калі гэта здарыцца. Чакаю. Нічым не магу заняцца. Іду за плугам толькі да тае пары,

як з мяне пачынае выплёхвацца МАЯ ІСНАСЦЬ. Тады кідаю плуг, замыкаюся ў сабе і сяджу там ціха, каб супакоіць хвалі. Хапляюся за сякеру, ці за касу, ці кагось плячом зачаплю або мяне хто зачэпіць, з болем адчую, як выплёхваецца з мяне МАЯ ІСНАСЦЬ. Мне трэба сядзець і думаць адно пра тое зярнятка, чакаць, пакуль яно прарасце (калі прарасце яшчэ) і народзіць тое незвычайнае, навязанае мне некім ці нечым.

Але для таго, каб яно прарасло, мне трэба захаваць МАЮ ІСНАСЦЬ. Інакш расплёскаецца ўся да рэшты. Я зраблюся, як спустошаная чарка. Зярнятка на дне гэтай чаркі высахне і ўжо не прарасце ніколі.

Мне нічога не застаецца, як сядзець і чакаць.

Літаратурна-мастацкае выданне

Крэйдзіч Анатоль

ПАРАНЕНЫЯ МАРЫ

*П'еса, апавяданні, мініяцюры*

Рэдактар В. В. Бурдыка
Мастацкі рэдактар В. У. Юшкавец
Карэктар У. В. Клімовіч

Падпісана ў друк з арыгінал-макета 30.04.2002 Фармат 70Х100 $^{1}/_{32}$. Гарнітура «Таймс». Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 4 Ул.-выд. арк. 4,26. Тыраж 500. Заказ 35.

Выдавец і паліграфічнае выкананне ААТ «Брэсцкая друкарня». 224013 г. Брэст, пр-т Машэрава, 75. ЛВ № 15 ад 1.06.2000 г. ЛП № 79 ад 18.05.2000 г.